ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

7 САКАВІКА 2003 г. № 10/4196 КОШТ 520 РУБ.

АНОНС!

## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

*Георгій ЗАГАРОДНІ:*

"Гісторыя, якую я хачу расказаць, звязана з гастрольнай дзейнасцю легендарнага мулявінскага ансамбля "Песняры..."

3



ПАДЗЕЯЙ у мастацкім жыцці Мінска сталася нядаўняя прэм'ера: балет "Марная перасцярога", пастаўлены Д. ЗАЙФЕРТАМ на музыку Л. ГЕРОЛЬДА.



11

СВЯТЫ



## ЖАНЧЫНЫ І ДЗЯЎЧАТЫ БЕЛАРУСІ! ВІНШУЕМ ВАС СА СВЯТАМ ВЯСНЫ! ЗЫЧЫМ КАХАННЯ, БАГАЦЦЯ І ЗДАРОЎЯ! УСМІХАЙЦЕСЯ НАМ!

*НА ЗДЫМКУ: Таццяна ФЁДАРАВА — студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў.*

Фота К. ДРОБАВА

## ПА ДАРОЗЕ ДА НАШЫХ МАТУЛЬ

*У вёсках і мястэчках, з якіх некалі ўсе мы пайшлі ў "вялікі свет" жылі і яшчэ жывуць нашы матулі.*
*Чакаюць...*
*Пра дарогу паэта дадому, да матчынага цяпла — эсэ Уладзіміра САЛАМАХІ*

чытайце на стар. 4-5



## КОЛА ДЗЁН

***2 сакавіка адбыліся выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь дваццаць чацвёртага склікання. У поўным складзе выбраны 1664 Саветы ўсіх узроўняў, і толькі 8 не дацягваюць да кворуму. У галасаванні ўдзельнічала каля 5 мільёнаў 203 тысяч жыхароў нашай краіны. На першы і другі туры выбараў з рэспубліканскага бюджэту выдзялялася 10,5 мільярда беларускіх рублёў. Рэальныя расходы складуць 7 мільярдаў: гэтыя грошы пайшлі на першы тур, а частка іх будзе патрачана на другі тур. Словам, 3 мільярды зэканомленых рублёў застануцца ў дзяржаўнай казне. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка высока ацаніў выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў і падкрэсліў, што яўка 73 працэнтаў выбаршчыкаў гаворыць пра высокую адказнасць беларускага народа за жыццё ва ўласнай краіне, пра высокую грамадзянскую пазіцыю жыхароў Беларусі.***

### *ІНІЦЫЯТЫВА ТЫДНЯ*

У сувязі з набліжэннем даты ўвядзення поўнага візавага рэжыму паміж Польшчай і Беларуссю Польскае пасольства ў Мінску распаўсюдзіла ініцыятыву сваёй краіны прымяніць так званы варыянт "візавай асіметрыі". Сутнасць гэтай прапановы ў тым, што Польшча не будзе браць грошы за візы "пры адначасовай адмове ад увядзення візавага рэжыму Беларуссю". Дарэчы, наша суседка Украіна ўжо пагадзілася з "візавай асіметрыяй".

### *ЗРУХІ ТЫДНЯ*

Сёлета ўпершыню Міністэрства адукацыі Расійскай Федэрацыі ўнесла ў Правілы прыёму ў расійскія ВНУ пункт, згодна з якім беларускія грамадзяне афіцыйна прыраўноўваюцца ў правах на атрыманне вышэйшай адукацыі з расійскімі грамадзянамі. Раней гэта толькі дэкларавалася.

### *ФЕСТЫВАЛЬ ТЫДНЯ*

7—9 сакавіка ў сталічным Палацы дзяцей і моладзі адбудзецца VI фестываль сярэдневечнай культуры і музыкі "Белы замак—2003". Мяркуецца, што ў свяце будуць удзельнічаць прадстаўнікі з больш чым 50 ваенна-гістарычных клубаў Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы і краін Балтыі. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА ў Рэспубліцы Беларусь, Мінскі палац дзяцей і моладзі, ваенна-гістарычнае аб'яднанне "Ордэн Паўночнага Храма".

### *СУСТРЭЧА ТЫДНЯ*

Адбылася сустрэча прадстаўнікоў мытных службаў Беларусі і Польшчы, падчас якой суседзі паведамілі аб увядзенні абмежаванняў на ўвоз аўтамабільнага паліва. Яшчэ з 1 студзеня гэтага года Польшча абмежавала ўвоз на сваю тэрыторыю дызельнага паліва ў разліку 200 літраў на адзін грузавік і 600 літраў на аўтобус. Калі паліва ў баках аўтамабіляў больш за ўказаную норму, то яно абкладаецца падаткам і акцызам.

### *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу, у мінулым годзе ў нашай краіне зарэгістравана больш за 66 тысяч шлюбаў і амаль 37 тысяч разводаў. Колькасць сямейных пар, у параўнанні з папярэднім годам, крыху скарацілася. Аднак менш і распалася сем'яў. У цэлым у 2002 годзе на кожную тысячу чалавек зарэгістравана менш за чатыры разводы і амаль сем шлюбаў.

### *ПРАРОЦТВА ТЫДНЯ*

На невялічкім кавалачку паперы сярод дакументаў вядомага вучонага Ісака Ньютана, якім ужо больш за 250 гадоў, даследчыкі знайшлі прароцтва, згодна з якім у 2060 годзе надыдзе канец свету. Ньютан вядомы нам як фізік і вынаходнік закона сусветнага прыцягнення. У той жа час ён усё жыццё займаўся даследаваннем Біблії і спрабаваў распрацаваць сістэму, якая б дазваляла тлумачыць старажытную кнігу з мэтай прадказання будучыні. Словам, канец свету прадказаны. Праўда, не першы раз і, калі памятаеце, то канцоў свету мы перажылі ўжо нямала...

### *КЛОПАТ ТЫДНЯ*

За 2002 год у нашай краіне ў выніку будаўніцтва новых і мадэрнізацыі існуючых АТС уведзена амаль 154 тысячы нумароў, што на 8 тысяч больш за запланаванае. Тэлефанізавана 220 малanаселеных пунктаў пры плане 150. Цяпер на 1000 жыхароў прыпадае 311 тэлефонных апаратаў. А паказчык у разліку на 1000 сем'яў роўны 806.

### *НАВІНКА ТЫДНЯ*

У гэтым месяцы ў Мінску павінен з'явіцца першы кінатэатр пад адкрытым небам — для аўтамабілістаў. Ён размесціцца на тэрыторыі аднаго з буйнейшых гандлёвых комплексаў сталіцы — ЗАТ "Торговый мир "Кольцо", які ўключае ў сябе цэнтральны аўтамабільны, рэчавы і будаўнічы рынкі. Арганізатары абяцаюць, што ў межах 144 кв. м можна будзе бачыць яскравую "карцінку".


**ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСКА НА II КВАРТАЛ**

Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на II квартал 2003 года. На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**


СУСТРЭЧЫ

# НАПЯРЭДАДНІ СВЯТА



НАПЯРЭДАДНІ свята 8 Сакавіка ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбылося пасяджэнне "круглага стала" з удзелам вядомых жанчын Беларусі. Яно праходзіла пад дэвізам "Дзелавая жанчына: страты і набыткі". Сярод удзельніц "круглага стала" былі: Вольга Абрамава — член Камісіі па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ, Лілія Ананіч — намеснік міністра інфармацыі РБ, Алена Бялова — прафесар кафедры педагогікі і псіхалогіі Акадэміі фізкультуры і спорту, Рэгіна Давідовіч — намеснік старшыні Беларускага саюза жанчын, Антаніна Морава — міністр працы і сацыяльнай абароны РБ, Людміла Пастаялка – міністр аховы здароўя РБ, Наталля Рыбянец — кандыдат тэхнічных навук, выканаўчы дырэктар Беларускага нацыянальнага камітэта па праграме ЮНЕСКА "Чалавек і біясфера", Алена Сяльчонак — каардынатар нацыянальных праграм ААН ЮНІСЕФ у РБ, Анжаліка Агурбаш — эстрадная спявачка, місіс Расія—2002, Ніна Сняжкова — былы намеснік старшыні Савета міністраў БССР, Вольга Янкоўская — шматдзетная маці, Ніна Аруцюнян — доктар філалагічных навук, жонка пасла Армянскай Рэспублікі ў РБ.

Славутыя жанчыны падзяліліся сваімі поглядамі на месца і прызначэнне сучаснай кабеты ў нашым хуткаплынным жыцці. Яны выказалі і розныя пункты гледжання на ролю жанчыны ў грамадстве. Так, А. Агурбаш заўважыла, што пры ўмове ўпартай працы над сабой можна дасягнуць усяго, чаго захочаш. А Н. Сняжкова падкрэсліла: дзелавая жанчына прыўносіць у любы калектыў нешта такое, чаго не можа даць яму ніводзін мужчына. Жанчына-кіраўнік робіць уладу больш даступнай... Прыгожа павіншаваў прысутных з надыходзячым святам паэт Л. Дранько-Майсюк. А сакрэт поспеху, аказваецца, вельмі простыя — не ленавацца! Гэта пацвердзіла сям'я Агурбашаў — Анжаліка і яе муж Мікалай (ён уручыў жанчынам кветкі і каштоўныя падарункі) — якія былі ў цэнтры ўсеагульнай увагі і захаплення.

**С. Я.**

**ФОТА К. ДРОБАВА**

АКТУАЛЬНА

# ЗБІРАЙМАСЯ Ў МАЛАДЗЕЧНА!

***Мінуў месяц, як было апублікавана Распараджэнне Прэзідэнта Беларусі аб правядзенні VII Нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне. Аргкамітэт свята пад старшынствам віцэ-прэм'ера РБ У. Дражына распачаў падрыхтоўчую працу і на тым тыдні правёў рабочае пасяджэнне. У сваю чаргу мастацкі кіраўнік "Маладзечна—2003" прафесар М. Фінберг днямі праінфармаваў журналістаў пра канцэртныя праграмы фестывалю.***




А пачалася праца на базе Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ паўгода таму. У маэстра, які дбае пра грунтоўнасць кожнага свайго фестывальнага праекта, да імпрэзы ў Маладзечне стаўленне асаблівае: гэта унікальнае беларускае музычна-паэтычнае свята і сёлета адзначаецца 10-годдзе з часу яго заснавання.

Галоўныя прыкметы маладзечанскага фэсту — шырокае гучанне беларускай мовы, жывое слова беларускае, паэтычныя творы ў аўтарскім выкананні, спеўны голас і жывы музычны гук. Галоўныя канцэрты? Пра іх можна ўжо распавядаць даволі падрабязна.

Першы называецца "Беларусь, за цябе я малюся" і складаецца з некалькіх тэматычных блокаў, прысвечаных адметным юбілеям, творчым асобам. Праз такія песенна-паэтычныя падборкі будуць ушанаваны імёны Янкі Купалы ды Якуба Коласа, Уладзіміра Мулявіна ды Віктара Вуячыча, Уладзіміра Караткевіча ды Алеся Бачылы, Уладзіміра Алоўнікава ды Юрыя Семянякі. У жывой атмасферы вечаровага горада пераплятуцца галасы традыцый і свежыя інтанацыі сучаснасці. Прагучыць імя патрыярха беларускай кампазітарскай школы Анатоля Багатырова, 90-годдзе якога рыхтуецца адзначыць наша грамадскасць. Прагучаць імёны пераможцаў новага конкурсу — маладых беларускіх выканаўцаў эстраднай песні, якія выступяць поруч з лаўрэатамі мінулых маладзечанскіх фестываляў Вікторыяй Алешкай, Дзмітрыем Качароўскім ды інш. Свае творчыя набыткі пакажуць і прадстаўнікі ўсіх абласцей краіны.

Свята працягнецца ўначы, калі гаспадарамі галоўнай гарадской плошчы стануць каларытныя спеўныя гурты: "Троіца", "Крыві", "Гуды", "Неруш", "Дзеўкі", "Песняры", дуэт Аляксандра і Канстанцін. Толькі пабеларуску будуць спяваць групы "Чысты голас", "Лепрыконсы", "Без білета" і нават расійскія госці — "Вячоркі".

У цэнтры другога фестывальнага дня — вялікі канцэрт "Лепшыя песні". Ёмістая назва дазваляе ўключыць у яго беларускія шлягеры розных часоў, усё, што мы можам заспяваць разам, што было папулярнае калісьці, жыве сёння і жыць будзе пасля нас. Песенны фэст на плошчы зменіцца начной джазавай праграмай.

А вось у Палацы культуры, адкрытым сёлета і ўжо, без жартаў, прыроўненым паводле яго камфортнасці ды раскошы ўбрання да Палаца Рэспублікі, адбудзецца вечаровы канцэрт беларускай камернай музыкі. У вобразным сэнсе гэта будзе сустрэча некалькіх фестываляў, наладжаных па ініцыятыве М. Фінберга ў шэрагу нестальічных гарадоў: Нясвіжы, Заслаўі, Мсціслаўе... Апроч камерных калектываў, што працуюць у структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, выступіць знаны Сімфанічны аркестр Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага пад кіраўніцтвам Р. Сарокі. Канцэрт будзе суправаджацца папулярным каментарыем даследчыцы даўняй беларускай музыкі В. Дадзіёмавай, якая асаблівую ўвагу надасць асобе М. Кл. Агінскага — у яго юбілейны год.

Гэта — асноўнае. Апроч таго, рыхтуецца мноства спадарожных імпрэзаў, творчых сустрэч, літаратурных прэзентацый, пра што "ЛіМ" таксама з часам распавядзе.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ЮБІЛЕІ

# ЗАПОЗНЕНЫЯ СЛОВЫ



У панядзелак патэлефанавала ў рэдакцыю Алена Васілевіч.

*— Лёнечка, а ці даяце вы ў гэты нумар што-небудзь пра Міколу Ткачова?..*

*— ???*

*— Восьмага ж Сакавіка ў яго якраз быў бы юбілей — 85 гадоў з дня нараджэння...*

*— Не, — кажу вінавата-разгублена, — прамаргалі... І ўжо, мабыць, звярсталі чарговы нумар тыднёвіка...*

*— Шкада... То ж быў "залаты час" выдавецтва "Мастацкая літаратура", о-о-о...*

Прысаромлены, адгарнуў я даведнік "Беларускія пісьменнікі" і зніякавеў данельга: аказваецца Мікалай Гаўрылавіч быў не толькі дырэктарам выдавецтва "Мастацкая літаратура" (1972-1979), але і адказным сакратаром часопіса "Полымя" (1949-1957). Больш за тое, ён узначальваў два гады і наш штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" (1957-1959)...

Вечарам, усё ж выбіўшы месца ў нумары, ужо сам тэлефаную Алене Сямёнаўне.

*— Шукаць парады і падтрымкі, прасіць помачы, ратавацца ад самых нярэдка нечаканых падкопаў лёсу і жыцця — ішлі мы да Міколы Гаўрылавіча ўсе. Кватэры, пуцёўкі, хваробы, разводы, аліменты, дзеці, зяці, званкі і паперы з выцвярэзнікаў... І не памятаю, каб калі-небудзь, заўсёды прынцыповы і патрабавальны да людзей, ён застаўся абыякавым, не працягнуў руку помачы, не заступіўся, не пазваніў, не абнадзеіў словам... Шчаслівыя — паўтару — былі тыя гады. Тым, хто працаваў у выдавецтве "Мастацкая літаратура", зайздросцілі...*

*Постаць і духоўнае аблічча Міколы Ткачова ў маім уяўленні ніяк не інакш, як — нязменна — з Коласавых радкоў:*

*Сілачом стаіць*
*Дуб разложысты,*
*І здалёк відаць*
*Пышны верх яго.*

*...Ён і рухнуў — для ўсіх, хто ведаў яго і быў з ім побач — гэтак жа раптоўна і нечакана, як падае на зямлю дрэва, скрышанае сляпой ашалелай бурай...*

Давайце ж гэтым святочным днём разам з прыгожай паловай чалавецтва добрым словам ушануем і Міколу Ткачова.

**Л.Г.**

ПАМЯЦЬ

***Гісторыя, якую я хачу расказаць, звязана з гастрольнай дзейнасцю легендарнага мулявінскага ансамбля "Песняры", калі ён больш за чвэрць стагоддзя таму ўдзельнічаў у Днях савецкай культуры ў Югаславіі. Працуючы тады дырэктарам Беларускай дзяржаўнай філармоніі, я меўся суправаджаючы гэты творчы калектыў у якасці кіраўніка гастрольнай паездкі. У памяці назаўсёды захаваліся ўражанні пра шматкіламетровыя пераезды на спецыяльным аўтобусе па югаслаўскіх дарогах, пра надзвычай цёплы прыём беларускіх артыстаў паўсюль, дзе яны выступалі ў гэтай балканскай краіне. Тады, глыбокай восенню 1976 года, паміж рэспублікамі і аўтаномнымі краямі СФРЮ не існавала ніякіх межаў і мытных бар'ераў, не назіралася нацыянальнай варожасці і рэлігійнага фанатызму. Там панавалі мір і стабільнасць...***

# З "ПЕСНЯРАМІ" ПА ЮГАСЛАВІІ

Той раніцай "Песняры" прыляцелі ў сталіцу Харватыі Заграб, у аэрапорце іх сустракалі прадстаўнік мясцовай філармоніі і радца па пытаннях культуры Генконсульства СССР. Пасля размяшчэння ў гасцініцы нас пазнаёмілі з планам гастрольнай паездкі. У той жа вечар адбыўся першы выязны канцэрт ансамбля ў Доме культуры сталічнага прыгарада Вялікая Горыца. Мяркуючы па незмаўкальных апладысментах, канцэртная праграма і яе выкананне слухачам вельмі спадабаліся.

Але асаблівы поспех чакаў "Песняроў" назаўтра, падчас выступлення ў найбуйнейшай заграбскай зале, якая носіць імя вядомага харвацкага кампазітара Ватраслава Лісінскага. На той канцэрт газета "Віеснік" адразу ж адгукнулася ўхвальнай рэцэнзіяй, у якой, прынамсі, гаварылася: "Трэба прызнаць, што "Песняры" маглі б з'яўляцца ўзорам для нашых шматлікіх прыхільнікаў выкарыстання фальклору ў эстраднай музыцы". І далей музычны крытык адзначаў, што ў савецкага ансамбля "сучасная аранжыроўка, а гучанне можна параўнаць з сімфанічным".

Такая высокая і дакладная ацэнка ў харвацкай прэсе сталася для "Песняроў" выдатнай канцэртнай рэкламай напярэдадні іх працяглага турнэ па Югаславіі. А яны (адзначу, забягаючы наперад) павандравалі там амаль паўсюль, праехаўшы больш за чатыры тысячы кіламетраў і пабываўшы ў 20 буйных і малых гарадах СФРЮ (апрача Славеніі). За 22 дні гастроляў адбылося 17 беларускіх канцэртаў, наведнікі якіх прымалі нашых выканаўцаў з дзівосным захапленнем. І, як я заўважыў, найбольшае ўражанне зрабілі апрацоўкі беларускіх народных песень "Ой, рана на Івана", "Перапёлачка", "Касіў Ясь канюшыну", "Купалінка", "А ў полі вярба", "Рэчанька", "Хлопец пашаньку пахае" і некаторыя іншыя, зробленыя мастацкім кіраўніком ансамбля Уладзімірам Мулявіным.

Скончыўшы выступленні ў Заграбе, нашы артысты ўзялі курс на ўзбярэжжа блакітнай Адрыятыкі. Па дарозе на поўдзень спыніліся на адзін вечар у невялічкім мястэчку Яйцэ, размешчаным сярод гор Босніі і Герцагавіны. (Гістарычная адметнасць гэтай мясціны ў тым, што ў лістападзе 1943 г. 2-я сесія Антыфашысцкага веча абвясціла тут стварэнне новай сацыялістычнай дзяржавы на Балканах). Канцэрт тут праходзіў з нейкім асаблівым эмацыянальным настроем.

Наогул, наш эстрадны калектыў зрабіўся хутка папулярным у Югаславіі. Колькасць жадаючых пазнаёміцца з ягонай самабытнай творчасцю расла ці не па гадзінах. Прынамсі, яшчэ задоўга да прыезду "Песняроў" у партовыя гарады Спліт і Шыбэнік білеты на іх канцэрты былі цалкам рэалізаваныя, і праграма ішла ў перапоўненых залах. Ведаючы пра вялікую цікавасць югаслаўскай публікі да таленавітых гасцей, мясцовыя філармоніі прапанавалі арганізаваць дадатковыя выступленні ансамбля на Адрыятычным узбярэжжы. Але мы мусілі строга прытрымлівацца і загадзя вызначанага гастрольнага маршрута. Таму пасля двух дзён на Адрыятыцы накіраваліся ў Македонію: там нашых музыкаў таксама чакалі слухачы, для якіх знаёмства з беларускімі песнямі магло стацца сапраўдным творчым адкрыццём.

І вось тут здарылася неспадзяванка, якая хавала ў сабе небяспеку для працягу нашай паездкі. Калі да прыбыцця ў сталіцу Македоніі Скоп'е заставаліся лічаныя гадзіны, удзельнікі ансамбля раптам заўважылі, што Уладзіміру Мулявіну зрабілася зусім дрэнна: ён пабялеў і скурчыўся ад болю. Аказалася, у яго пачаліся ныррачныя колікі. Шафёр нашага аўтобуса дабавіў хуткасці.

Неўзабаве паказаліся гарадскія ўскраіны Скоп'е. Нас сустракаў на сваёй машыне дырэктар Македонскай філармоніі Фімча Муратоўскі, які, даведаўшыся пра цяжкі стан кіраўніка "Песняроў", неадкладна павёз яго ў бліжэйшую паліклініку, дзе хвораму зрабілі абязбольвальны ўкол. Усе мы вельмі хваляваліся і перажывалі за Мулявіна, спадзеючыся, што ягоны малады арганізм справіцца з хваробай. "Як адчуваеш сябе, Валодзя? Відаць, трэба адмяніць вячэрні канцэрт?" — спытаў я ў Мулявіна пасля візіту ў паліклініку. "Ні ў якім разе, — запярэчыў ён. — Мне ўжо значна лепш. Будзем выступаць!"

Якіх велізарных намаганняў каштавала лідэру "Песняроў", пераадольваючы боль, выйсці на сцэну з іншымі музыкантамі і правесці двухгадзінную праграму ў перапоўненай македонскай зале "Універзална дворана". Толькі жалезная вытрымка, стойкая воля, характар і самавалоданне дапамаглі Уладзіміру Мулявіну з годнасцю прадставіць гэты канцэрт ў Скоп'е і прадоўжыць гастрольныя выступленні.

Пра тую паездку з "Песнярамі" я міжволі ўспомніў сёлета ў студзеньскі слотны дзень, сярод тысяч людзей, прыйшоўшы на пахаванне заўчасна памерлага стваральніка і кіраўніка нашага славутага ансамбля. Так, У. Мулявін падчас югаслаўскай вандроўкі здолеў выйсці пераможцам з драматычнай сітуацыі, а вось леташняя аўтамабільная аварыя зрабіла яго сваім заложнікам і ўрэшце прывяла да трагічнага канца.

Вельмі балюча і гаркотна ўсведамляць, што больш ўжо ніколі жывы і непаўторны голас таленавітага Маэстра не прагучыць на канцэртнай эстрадзе. Адно суцяшэнне: засталіся шматлікія мулявінскія песні — вельмі змястоўныя, меладычныя, шчырыя, якімі будуць ганарыцца наступныя пакаленні славянскіх народаў.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**
**Фота Я. КОКТЫША**

МУЗЕІ

# З ГІСТОРЫІ КІНО

***Хутка беларускаму кінематографу споўніцца 80 год. За гэты час на айчыннай кінастудыі адных толькі поўнаметражных іграваых фільмаў было знята больш за 500, уключаючы шматлікія серыялы. Але ці кожны з нас можа назваць хаця б 10—15 з іх? З мэтай папулярызацыі лепшых нашых фільмаў, за якія, гэтак кажучы, не сорамна перад будучымі пакаленнямі, з мэтай захоўвання памяці аб іх аўтарах, у мінулым годзе і быў адкрыты Музей гісторыі беларускага кіно. Што ж ён прапануе наведвальнікам?***

Перш за ўсё, мемарыяльна-прадметную экспазіцыю, што складаецца з трох асноўных раздзелаў. Першы — "Заснавальнікі беларускага кіно" — знаёміць з творчым шляхам кінарэжысёраў Ю. Тарыча і У. Корш-Сабліна. Другі — "Залаты фонд беларускага кіно" — падрабязна прадстаўляе лепшыя нашы кінастужкі. Варта адзначыць, у прыватнасці, "Ідзі і глядзі" Э. Клімава (па прызнанні міжнародных экспертаў самы моцны кінапрысуд вайне), "Знак бяды" І. Пташука, "Праз могілкі" В. Турава (карціна, якая ўвайшла ў спіс 100 лепшых фільмаў свету аб другой сусветнай вайне). А таксама — кінастужкі нацыянальнай тэматыкі: "Чужая бацькаўшчына" В. Рыбарава, "Людзі на балоце" В. Турава і іншыя. Наогул, значны пласт гэтых карцін — экранізацыя твораў беларускіх пісьменнікаў Мележа, Караткевіча, Коласа, Шамякіна, Лынькова, Быкава, Крапівы, Касько і інш. І, нарэшце, трэці раздзел музейнай экспазіцыі — тэматычная выстава работ прадстаўнікоў канкрэтнай кінематаграфічнай прафесіі. У дадзеным выпадку — творы мастакоў па касцюмах.



Побач эспануецца калекцыя кінатэхнікі і кінаплакатаў. Са здымачнай тэхнікі варта адзначыць ручны кінапраектар сярэдзіны 20-х гадоў і адзіную дзейсную кінаперасоўку 1948 г., якая была падаравана музею старэйшым кінафікатарам РБ С. Шарманавым.

Назваўшы сваю экспазіцыю "Дубль 1", стваральнікі ў бліжэйшы час плануюць дапоўніць яе шэрагам тэматычных выстаў. ("Прафесія — каскадзёр", "В. Высоцкі ў беларускім кіно" і інш.), рыхтуюць анімацыйны раздзел на прыкладзе поўнаметражнай лялечнай стужкі "Чароўная жалейка".

Арганічна дапаўняе экспазіцыю мастацкая галерэя, дзе выстаўляюцца творчыя працы супрацоўнікаў кінастудыі, а таксама проста мастакоў, скульптараў, фатографаў. І, вядома, кіназала. Увогуле, адметнасць музея кіно заключаецца ў тым, што галоўным яго экспанатам з'яўляецца фільм. Адсюль і асноўная задача — стварыць экранную экспазіцыю, г. зн. сістэму кінавідэа-паказу айчыннай і замежнай кінакласікі. Зразумела, магчыма гэта толькі пры наяўнасці багатага кіна- відэафонду, ды адпаведнай апаратуры. Менавіта на іх набыццё і накіраваны цяпер асноўныя намаганні супрацоўнікаў музея.

Праўда, зрабіць гэта ім будзе вельмі няпроста. Перашкаджае ведамасны статус музея, які існуе выключна за свае сродкі. Установа застаецца рэнтабельнай за кошт скарачэння расходаў на яе ўтрыманне і развіццё да мінімуму. У музеі ўсяго 3 супрацоўнікі: дырэктар — кіназнаўца, загадчык галерэяй — мастацтвазнаўца і заўгас. Ці здолеюць яны выканаць задачу, па сутнасці, дзяржаўнага ўзроўню — захаваць памяць пра важны пласт нацыянальнай культуры?

**Наста ЛІТВІН**

ЛІМ-ЧАСАПІС

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

**Пра 100-годдзе Тодара Кляшторнага, 85-годдзе Эдуарда Валасевіча, іншыя юбілеі дзеячаў беларускай культуры і навукі пойдзе размова ў панядзелак, у "Радыёфакце", у рубрыцы "Кола часу", якую вядзе Навум Гальпяровіч.**

**Да асобы Тодара Кляшторнага звернецца і аўтарская праграма "Брама". Прагучаць успаміны і вершы пра бацьку дачкі паэта Тадзіяны Кляшторнай, выступленні літаратараў і навукоўцаў.**

**Аўтарскія праграмы "Брама", "Аванс-цэна", "Палітра" і "Сентыментальнае паляванне" слухайце, як звычайна, на Першым Нацыянальным канале ў 22.30.**

**"Кароткія гісторыі" — штодня пасля паўночы, а ў суботу — "Літаратурны праспект" з Алесем Бадаком, сустрэча ў жывым эфіры з Маргарытай Прохар, а ў нядзелю — "Кніжны кіёск".**

**Матэрыялы, звязаныя з літаратурай, гучаць таксама ў "Праграме "А", у перадачах "Славутыя імёны Бацькаўшчыны", "Галерэя", "Канцэртная зала".**

**У нядзелю ў 14 гадзін — "Беларускі альбом" з Раманам Мышкоўскім і Марынай Драгінай.**

# КАНАЛ «КУЛЬТУРА»

**"КЛУБ ДАМАСЕДАЎ". Панядзелак—аўторак, у 11.00 працягваем чытаць разам раман У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". У сераду ў гэты час — праграма М. Прохар "Хранограф", у чацвер — "Натхненне" В. Макарэвіча.**

**"ЛІТАРАТУРНЫ АЎТОРАК" у "Сімфоніі дня" 11 сакавіка прапануе наступныя сустрэчы: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі (падрыхтавана з літаратурнага свята, прысвечанага 125-годдзю вызвалення Балгарыі), у 14.40 — "Сугалоссе" У. Дзюбы знаёміць з творчасцю сербскага паэта Радаміра Андрыча і шведа, лаўрэата Нобелеўскай прэміі 1916 года Вернера Хейдэнстама. З 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у 15.30 — у "Паэтычным радыётэатры" прагучыць спектакль "Кудыкала-індыкала" паводле дзіцячых вершаў Р. Барадуліна, і завершыць "Літаратурны аўторак" праграма Г Шаблінскай "Гаспода", пачатак у 16.10. Госці студыі — літаратуразнаўца І. Багдановіч, выпуск да 100-годдзя Т. Кляшторнага. (Паўтор у суботу, у 10.10).**

**Н. К.**

# АМЕРЫКАНСКІЯ ВАРЫЯЦЫІ Ў АКАДЭМІІ МУЗЫКІ

**На мінулым тыдні ў Беларускай акадэміі музыкі прайшоў канцэрт "Варыяцыі на амерыканскую тэму", арганізатарам якога стала амбасада ЗША ў Беларусі.**

**У першай частцы праграмы выступіў дуэт "Галасы Амерыкі". Барытон Айра Сполдынг выканаў традыцыйныя амерыканскія і афра-амерыканскія песні, невялікія оперы. Яму акампанаваў піяніст і мастацкі кіраўнік калектыву Джон Фергюсан, які асобна выканаў некалькі твораў у стылі рэгтайм.**

**Дарэчы, заснаваная ім асацыяцыя "Галасы Амерыкі" штогод праводзіць каля 100 канцэртаў, майстар-класаў і семінараў у больш чым 30 краінах свету. Асацыяцыя таксама займаецца арганізацыяй джазавых фестываляў і гала-канцэртаў. Іх рэпертуар уключае класіку, джаз, оперную і сучасную музыку.**

**У другой частцы канцэрта амерыканскія артысты выступілі разам з хорам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Віктара Роўды.**

**Амбасадар Злучаных Штатаў Амерыкі Майкл Дж.Козак прэзэнтаваў акадэміі збор запісаў амерыканскай музыкі.**

**Вікторыя БАРТКЕВІЧ**

ЗАПАТРАБАВАНА ЧАСАМ

# ПА ДАРОЗЕ ДА НАШЫХ МАТУЛЬ

***НЕЯК ВОСЕННЮ Я ПАДАХВОЦІЎСЯ АДВЕЗЦІ АДНАГО ПАЭТА НА ЯГО РАДЗІМУ. ДА МАЦІ. ПАЭТУ ДАЎНАВАТА-ТАКІ НЕ ВЫПАДАЛА ПАБЫВАЦЬ ДОМА...***

Мне здавалася, я разумеў чалавека, калі ён кожны дзень, як сустракаліся на працы, казаў, што не сёння — заўтра абяцаюць "лётнае" надвор'е (паедзем?) — занудзіўся па дому. Ды і маці, ведае, вочы ўжо прагледзела, сын усё не едзе... Але час доўжыўся: пяць, дзесяць, а можа, і ўсе дваццаць дзён запар ішлі, амаль не перастаючы, дажджы. Дробныя. Калючыя ўжо. Яны з кожным днём усё больш і больш тушылі кляновыя пажарышчы ў гарадскіх парках. І вось, урэшце, ад полымя восені засталося на дрэвах толькі счарнелае, нібы абгарэлае, голле. Наўкола адразу ж, паплыў густы шэры дым — туман. Стала зразумела: калі зараз не выберамся, то ўжо, мабыць, толькі са снегам, ці пасля снегу.

І я рашыўся: заўтра!.. Якое надвор'е не было б. Ну і што, калі даішнікі папярэджваюць "воздержаться от поездок?.." Хлеб іх такі, за дарогамі глядзець, ды нас папярэджваць, што на дарогах, а мы ўжо як-небудзь паціху, абачліва...

Прызнацца, і мне хацелася хоць на дзень з'ехаць з горада. У мяне бяздарна і па-пустому прайшло гэтае лета. Выйшла так. І зараз, можа, як ніколі раней, адчуў, доўга не выязджаючы туды, дзе "зацішак, спакой" (вызначэнне вёскі Міхася Стральцова), што значыць незычлівая аўра, ці як яе, шэрых камяніц... Але, прыходзіш на працу, ад калег чуеш, што паўсюль толькі і "ваююць", ды нешта даказваюць адзін аднаму, патрабуюць, каб ты рабіў невядома што, як некаму хочацца. Паглядзіш, паслухаеш, хто іх ведае, — ці не страціли панацці рэальнага. Злосць, незычлівасць, абразы. У нас у вёсцы на гэта сказалі б: "Ці не кепскае сабе чуюць..." Але, жорстка, ды дакладна...

Калі раніцою, прабіўшыся праз неймаверна густы туман, я прыехаў забіраць паэта і яго жонку, па няпэўнасці, якую адчуў у голасе творцы, зразумеў: сумняваецца, ці паедзем. І, мабыць, ноч не спаў.

"Не, браце, сказаў я сабе, праб'ёмся..."

Выехалі на кальцавую. Затым — на "алімпійку". Кірунак — Стоўбцы, Клецк і далей. На дарозе так: на выцягнутую руку бачнасць — ноль. Але людзі едуць. І ты ў "плыні". Трымайся яе хуткасці і 70—80 на спідометры. Уключыў бліжняе святло. У густым бляклым мроіве арыентаваўся так: напярэдзе прыблізна на адной і той жа адлегласці ад мяне ледзь пакалыхваюцца дзве расціснутыя недаспелыя журавіны — заднія габарытнікі таго, за кім трымаюся. Калі ж раптам яны, агні тыя, пачынаюць імгненна налівацца чырванню, ды распаўзацца — прытарможвай — спыняецца.

Паэт сядзеў побач са мной. Маўчаў. Маўчала і яго жонка. Яна ўладкавалася на заднім сядзенні. За мужам.

Ужо добра-такі асвойтаўшыся на дарозе, я паспрабаваў уявіць сябе на месцы паэта. Так заўсёды раіла маці, калі гаварылі пра якога родзіча, які нудзіўся па чым: "Уяві сябе на яго месцы: што б у цябе было на душы..."

Але, калі б гэта была мая дарога, да маёй маці, дык шчымела б у мяне сэрца: як яна зараз там адна? Можа, занемагла такою халоднай парою, і няма каму вады падаць? Вёска ж як вымерла. На ўсю некалі людную доўгую вуліцу, з канца ў канец, маці — ды баба Шура. Такая ж, як і маці, гадамі. Можа, на маёй вуліцы даўно ўжо і свежага чалавечага следу няма? Во, ляжыць на ложку маці, усё ў акно, што на вуліцу, узіраецца. Сын жа замест таго, каб ехаць, марнее ў горадзе, аблытаны, нібы павуціннем, чужымі звадамі, ды сваркамі.

Тым часам журавіны "пераспелі". Лёгенька, каб не занесла ў кювет, прытармазіў. Ага, даішнікі, "плынь" прытрымалі. Ківаюць палкамі-жэзламі: цішэй, бач, разагнаўся. Мы табе... Паехалі цішэй: паспрабуй непадпарадкавацца!..

Паэт па-ранейшаму маўчыць. Маўчыць і яго жонка. Гэта іх дарога. Мабыць, думаюць, што там і як у маці. Але, некалі і ў мяне была дарога да маці. Дарога, зараз я так скажу, у двух ці то вымярэннях, ці то панацціях. Рэальная — шлях амаль у 200 кіламетраў, чатыры гадзіны ехаць. Гэта — першае вымярэнне. Другое — той душэўны стан, тыя думкі, з якімі едзеш да маці. Кожны раз здаецца, усё новыя, а ўрэшце адны і тыя ж: як яна там... А калі што іншае думалася, то пра самога сябе: чаму доўга не ехаў, што перашкаджала. Дык гэта як пакаянная малітва, як пошук самаапраўдання — не трэба пра гэта, вельмі сваё...

Лепш пра рэальны шлях. Уявілася, што машына, якая вязе мяне, спыняецца каля нашай крывой вуліцы. Вось яе шэрыя пахілыя, аджыўшыя сваё, платы. Я выходжу з машыны. У твар адразу секануў калючы дробны дождж. Не вельмі зважаю на яго: я амаль дома, а там будзе цёпла. І вось ўжо іду калдобістай вуліцай. Не зважаю на гразь, не вельмі абыходжу скамечаныя лужыны, краі якіх усланы прыбітым ветрам ужо счарнелым лісцем клёна, ліпы, бярозы, слівы, яблыні. Вымостка тая — ледзь трапечацца — мелка. Ступаю на яе. Іду далей па цупкім. Па абодва бакі вуліцы маўклівым чужым дакорам чарнеюць суседскія хаты. Вокны завешаны зжаўцелымі фіранкамі, каб хто якую адшмаргнуў, ды выбліснуў дзіцячы тварык... Некалі ж вуліца была людная і гаманлівая. Я ведаю, што ў гэтай хаце з адным цёмным акном на вуліцу жыла, а можа, дзякуй Богу, і зараз жыве баба Хвеня, бавячы сваё, ёй адпушчанае, жыццё. А ў гэтай хаце, што справа, жылі дзядзька Іван і цётка Анька. Пасля іх тут спрабавалі прыжыцца нейкія "пералётныя" людзі. Ды так і не прыжыліся ў чужым гняздзе. Ведаю, што даўно ўжо няма нашых суседзяў дзеда Хведара, бабы Веры, і яшчэ многа каго. Вуліца майго дзяцінства, на якой рос, гадаваўся з сябрамі, па якой потым пайшоў, як у нас казалі, у свет, зараз як вышчарблена...

Чым бліжэй падыходжу да нашай хаты, тым, здаецца, больш млеюць ногі. Быццам увесь шлях з далёкага горада ішоў пяшком. Вунь яна, самая вялікая на вуліцы. Некалі пасля вайны, калі жылі ў стопачцы, з адным, у рукавічку, акенцам, будаваліся так, каб вольна было. Хата ўжо не такая аграмадная, як здавалася ў дзяцінстве. Ёй зараз быццам няўтульна сярод дзвюх высокіх, чорных ад дажджу ліп. Некалі ў садзіў іх дубчыкамі. І вось ужо многа гадоў збіраюся зацягнуць то на адну, то на другую кола, але заўсёды спазняюся: прыеду, а буслы ў чужых гнёздах. Вунь і клён мой, у вільчык. На яго вяршыні яшчэ слаба трапеча жменька сшарэлага лісця.

Я ўжо ўяўляю, як мільгаюць беленькія свежыя фіранкі трох акон на вуліцу, як прыемна рыпіць калітка. Вось я ўзбягаю на ганак, торгаю дзверы — дарэмна... Тады, ахалонеўшы, заўважаю, што ганак ажно блішчыць у восеньскай шэрані, так вышараваны. Такі ён заўсёды, калі б я не прыехаў дадому праз год, два, паўгода, месяц. Я намацваю за аканіцай ключ, дрыжачай рукой адмыкаю дзверы. У сенцах таксама вымыта. Пахне салодкім халадком, яблыкамі, квашанай капустай, і яшчэ нечым напаўзабытым, але такім родным і прывабным.

Хата ж сустракае святлом і цяплом. У ёй жывы дух, але цішыня, як сплылі кудысьці галасы маці, бацькі, суседзяў, незнаёмых людзей, якіх, колькі сябе помню, безліч перабывала ў нашай хаце. Ад парога да стала, на вымытай падлозе — вышараваны ў лісцінку пярэсты дыванок. Яго адразу пасля вайны ткала маці.

І — стол. На ім — горка, накрытая беленькім, саматканым, накрухмаленым абрусам...

Пазней ужо, калі будзем сядзець за сталом, бацька, як толькі маці зажурыцца, што сяголета, як ніколі баляць рукі, буркне: "Табе няма чаго рабіць, дык ты кожны дзень ганак шаруеш, у хаце мыеш, быццам нехта тут наслядзіў".

Не пакрыўдзіцца. Усміхнецца. Святлом залагодзіцца яе твар. І здасца, пасвятлеюць і яе спрацаваныя, ужо скукарэчаныя рукі. Адкажа: "Няхай бы хто і наслядзіў, як колісь... Дзеці ж едуць..."

Калі прыехалі ў вёску да паэта, туман амаль рассеяўся. Што пад'язджаем, я адчуў па тым, як паэт сказаў мне: "Павярні на гэтую дарогу". Чалавек ён зацяты, асаблівых эмоцый у голасе на адчуеш, але тут слова ледзь прыкметна дрогнула. І твар таемная ўсмешка кранула.

Завярнуў. Прасёлак, бальшак. Выбоіны, гразь, лужыны, ды паабапал голыя дрэвы.

— Гэтай дарогай у свет ішоў? — спытаў я іранічна, ведаючы, як і яму не проста ў "вялікім свеце".

— Гэтай.

— Н-да. Усе мы некалі пайшлі.

Я крутнуў ручку, прыапусціў бакавое шкло. У твар ударыў не па-асенняму малады пругкі вецер. Ажно скаланула.

— Вунь бачыш, поле, — паказаў наперад паэт. — Там некалі я з адной дзяўчынай да раніцы росы абсыпаў.

Жонка не зрэагавала.

Я:

— Пры жонцы кажаш?

Яна:

— А я ведаю, — усміхнулася...

Далей я не ведаў, ехаць паволі, ці гнаць. Паэт не прыспешваў. Праз некаторы час лясной дарогай спусціліся з пагорка на чыстае. Сярод невялікіх лугоў, акаймаваных шэра-зялёным, з бела-чорнымі пасмамі, лесам ляжала вёска. Яна была як заціснута ў нізіну. У адну вузкую вуліцу — шэры ланцуг хацін. Дзесяткі тры-чатыры. Чорныя стрэхі, карычневыя каміны, і хаця б дзе дымок. І, як у маёй вёсцы — счарнелыя пахілыя платы. За імі — ні стажка, месцамі неабабраныя старыя сады. Пустэча.

— Вунь хата мая, — сказаў паэт.

Я падруліў да звычайнай вясковай хаты, якіх тысячы на нашай зямлі...

Я пакінуў паэта і яго жонку сам-насам з яго вуліцай, падворкам, хатай. З маці. Гэта іх святасць — не руш... Мокрай слізкай счаўрэлай лугавінай узабраўся на пагорак да скасабочанай, рукой падаць да лесу, пустой канюшні. Там, па словах паэта, ёсць калонка, карыта з вадой, дзе можна змыць з машыны гразь. Канечне, мыць машыну не было патрэбы, але я хацеў убачыць вёску паэта з вышыні, разгледзець яе, як след.

Я знайшоў паламаную калонку, чорнае доўгае карыта з вадой. У ёй адбівалася шэрае бруднае неба. Час ад часу вада ў карыце спрабавала закіпаць дробнымі бурбалкамі, але тут жа сціхала.

З вышыні вёска нагадала пералётны гусіны клін, які доўга ляцеў, трывожна трубіў у блакітным небе, аж покуль яно не сшарэла. Тады клін зусім здарожыўся, пакружыў над зямлёй, і, заўважыўшы гэтае, ціхае, закрытае ад ветру лесам, спавітае лугамі месца, сеў. Ды так і застыў. А, можа, заснуў, змірыўся з думкай, што застанецца тут назаўжды.

Наўкола не было чутно рыпу калодзежных жураўлёў, калаўротаў. Ніхто нікога не клікаў. Не брахалі сабакі. Нічым не пахла, хіба што занядбаннем і пустэчай. І недзе далёка на пагорку на ўскрайку лесу, за канцавой паэтавай хатай слаба, але агідна жужжала бензапіла. Там па-зеленаватаму слаўся сіні едкі дым...

...А ў хаце, куды потым прывёў мяне паэт, была вымытая падлога. На вокнах — беленькія фіранкі. І яго старэнькая, светлая тварам і рукамі маці, ледзь усміхнуўшыся, паведала мне, старонняму чалавеку, што прадчувала: дзеці прыедуць. Вось і вымыла падлогу, разаслала даматканы, як і ў маёй маці, дыванок — ад парога да стала. І калі я старанна выціраў у парозе аб анучу брудны абутак, усміхнулася:

— Не трэба. Няхай бы мне хто калі і наслядзіў...

Пазней ужо, зімой, пасля адліжнай пары, па сшэрхлай, але слізкай дарозе вазіў я другога паэта да яго маці. У бліжэйшую, мабыць утрая, дарогу.

Я таксама, каб не перашкаджаць паэту, спачатку быў на вуліцы. Доўга стаяў каля яго хаты, такой жа, як і тысячы нашых вясковых хат. А потым, каб заняць сябе чым, узяў вядро, спусціўся па крохкім снезе да лужыны ў нізіне. Прабіў абцасам лёд. Стаў набіраць ваду, каб несці да машыны.

— А-я-яй, — пачуў я дакорлівае за спіной. — Хіба ж, дзеткі, вам можна голымі рукамі ў холад лезці?

Маці паэта незаўважна падышла да мяне, спынілася.

— Чаму? — зніякавеў я.

— Вы ж пішаце. Крый Божа рукі прастудзіце. Я сама набяру, памыю...

З таго часу, як аднойчы скончылася мая дарога да маёй маці, прайшло шмат гадоў. Але, здаецца, нідзе ніколі нішто не паласнула мне так па сэрцы як гэта мацярынскае слова. Я падумаў: колькі нас, паэтаў і не паэтаў, проста людзей, якія аднойчы выпырхнулі са сваіх вясковых і не вясковых гнёздаў, каб паляцець у "вялікі свет", так рэдка вяртаемся туды, дзе вытокі. А там, у вуліцы, па якіх мы пайшлі, кожны дзень пільна ўглядаюцца вочы нашых матуль: ці не ідзе... Там кожны дзень іх збалелыя рукі шаруюць да бляску ганак, і чыстым абрусам накрываюць стол. А таксама падумаў, што маці нашы, вось так, як маці паэта сваімі рукамі заўсёды могуць не толькі адвесці ад нас холад і агонь, але і словам сваім ашчадзіць душу.

І яна сказала:

— Нешта ж сусед казаў, ён газеты чытае, што пісьменнікі ў вас там, усё чубяцца і чубяцца. Нібы нешта падзяліць не могуць.

— Ды ўжо ж — Радзіму, — з горыччу паказаў я сваю нібы незвычайную дасведчанасць. — Спрачаемся, хто больш любіць яе.

— Нялюдска так, — сказала яна. — Во, бывае, як пачнуць іншыя дзеці хапацца за грудкі, ды крычаць, хто больш маці любіць, дык яна як бачыш згаруецца адна. Крый Божа...

Маці паэта пайшла. Сказала, каб не бавіўся, ішоў у хату. А я доўга яшчэ стаяў на вуліцы. На вёску насоўваўся сшарэлы змрок. У крохкім зялёнасінім небе слаба высвятлілася трапяткая зорка. Каляна трэскаўся пад нагамі лядок.

Спяшацца ў горад не хацелася.



*НА ЗДЫМКУ: сядзяць — маці пісьменніка, Уладзімір КАРАТКЕВІЧ, В. САДАВАЯ з унучкай; стаяць — бацька пісьменніка і М. САДАВЫ. Орша, 1955 г.*

**Уладзімір САЛАМАХА**

**Захарава, 19**



# РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***
***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***
***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл.: 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё свае, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.




Чарговае пасяджэнне суполкі маладых творцаў "Літаратурны квартал", якое мусіла адбыцца ў чацвер 27 лютага, атрымалася незвычайным. У кіраўнікоў суполкі Людмілы Рублеўскай і Віктара Шніпа ў гэты дзень прайшла творчая вечарына ў Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра "Зніч", і многія кварталаўцы сустрэліся ва ўтульнай тэатральнай зале Чырвонага касцёла, дзе месціцца тэатр. Вечарыну пад назвай "Двое і мора зімы" вёў паэт Навум Гальпяровіч. А прымеркавана яна была да прэзентацыі новых кніг, якія выйшлі пад адной вокладкай — "Выратаванне атрутай" Віктара Шніпа і "Над замкавай вежай" Людмілы Рублеўскай. Кнігі прадставіў выдавец, галоўны рэдактар часопіса "Куфэрак Віленшчыны" Міхась Казлоўскі. У імпрэзе таксама бралі ўдзел паэты Уладзімір Марук, Анатоль Зэкаў, барды Кастусь Герашчанка і Пятро Русаў, якія праспявалі песні на словы Людмілы Рублеўскай і Віктара Шніпа. І зразумела, самі героі вечарыны чыталі свае новыя творы.

Нагадваем, што пасяджэнні літсуполкі "Літаратурны квартал" адбываюцца кожны чацвер, а 18 гадзіне ў памяшканні рэдакцыі "ЛіМа".

**НАШЫ ВЫДАННІ**

# «НЁМАН», № 2

У другім нумары часопіс "Нёман" распачынае друкаваць гісторыка-публіцыстычны раман Эдуарда Скобелева "Завещание Сталина". Падзеі ў ім разгортваюцца як паўстагоддзя таму, так і ў нашы дні, калі развальвалася вялікая магутная дзяржава. Чытачам таксама прапануецца заканчэнне гістарычнага рамана Сяргея Зайцава "Снег и пепел" — вострасюжэтнага твора пра маладога лекара, двараніна з-пад Полацка, які трапіў у вір гарачых баталій 1812 года. Проза прадстаўлена яшчэ і навелай Анатоля Сульянава "Змея", сюжэт якой аўтару падказала яго багатае жыццё ваеннага лётчыка. У рубрыцы "Поэзия" друкуюцца новыя, яркія грамадзянскія вершы Браніслава Спрынчана. У іх паэт закранае многія балючыя пытанні і праблемы, якімі напоўнены наш час... У раздзеле "Публицистика" прарэктар Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта Іван Мартынаў выступае з вострым артыкулам "Русофобия по-белорусски".

Аб рабоце Нацыянальнай акадэміі навук, аб дасягненнях беларускіх вучоных, аб праблемах і планах развіцця нашай навукі ідзе размова ў інтэрв'ю прэзідэнта НАН Беларусі Міхаіла Мясніковіча. Гутарку з ім вядзе Ніна Чайка. У артыкуле "Чудо простое и непростое" Васіль Макарэвіч разважае аб паэтычнай творчасці Таісы Бондар, рэцэнзуючы яе новую кнігу вершаў "Простое чудо". Змешчаны таксама рэцэнзіі Міхася Пазнякова на кнігу прозы Васіля Ткачова "Тратнік" і Яўгена Каршукова — на кнігу Івана Кудраўцава "Мая вайна: здабытае з памяці".

**П. КУЗЬМІЧОЎ**

# СТРАЦІМ-ЛЕБЕДЗЬ НА УКРАІНЕ

**Прэзентацыя кнігі перакладаў твораў М. Багдановіча на ўкраінскую мову "Страцім-лебедзь" прайшла ў Дзяржаўным літаратурным музеі М. Багдановіча 26 лютага. На ёй прысутнічалі і выступалі пасол Украіны ў РБ В. Дронь, старшыня Беларускага фонду культуры У. Гілеп, прафесар В. Рагойша, літаратуразнаўца Т. Кабржыцкая, старшы навуковы супрацоўнік НАН Беларусі Ж. Шаладонава, вядомы перакладчык з беларускай мовы на ўкраінскую Р. Лубкіўскі, вучоны-культуролаг з Украіны І. Мельнік, украінскі пісьменнік Д. Паўлычка, пісьменнікі Я. Брыль, С. Законнікаў, А. Вярцінскі, С. Панізнік, Л. Дранько-Майсюк, Я. Лецка, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Э. Акулін і іншыя. Адбылася зацікаўленая і шчырая размова аб праблемах перакладу з блізкароднасных моў. Гучалі несмяротныя радкі М. Багдановіча.**

**С. Я.**

# БЫЛА ВЯСЁЛАЯ, УЗНЁСЛАЯ І ТРАПЯТКАЯ

**У Доме дружбы 26 лютага адбыўся *вечар памяці беларускай паэтэсы Анэлі* Тулупавай. Сабраліся тыя, хто добра ведаў паэтэсу, прыхільнікі яе творчасці. Вядучая, заслужаная артыстка РБ З. Бандарэнка заўважыла, што А. Тулупава была светлай, чыстай, прыгожай і таленавітай асобай. Вершы і гумарыстычныя творы паэтэсы гучалі ў выкананні заслужанага артыста РБ М. Казініна, заслужанай артысткі РБ Р. Маленчанкі, чытальніцы З. Феакціставай. Свае цёплыя словы пра А. Тулупаву сказалі пісьменнікі В. Іпатава, У. Ліпскі, А. Вярцінскі, Я. Малец, народны артыст СССР кампазітар І. Лучанок, мастачка Н. Шчасная, народны артыст Беларусі кампазітар Э. Зарыцкі, журналіст Ю. Гуртавенка, майстар фларыстыкі Д. Шымук, кампазітар В. Сярых... Можна было пачуць песні на словы А. Тулупавай, якія выконвалі музыкант і піяністка А. Канстанцінава, народная артыстка РБ Н. Багуслаўская, заслужаная артыстка РБ Н. Мікуліч... Прысутныя пазнаёміліся з публікацыямі твораў А. Тулупавай, выстаўленымі ў фае на адмыслова аформленым стэндзе (у тым ліку лімаўскімі). Было адзначана, што талент паэтэсы перайшоў да яе ў спадчыну ад бацькі Янкі і, у сваю чаргу, перадаўся яе дочкам Валерыі і Алесі, якія прысутнічалі на вечарыне. Разам з выступоўцамі слухачы перагарнулі старонкі біяграфіі нябожчыцы, даведаліся, што напрыканцы свайго жыцця яна прыняла пострыг і памерла манахіняй Неанілай. А. Тулупава пакінула наш зямны свет у росквіце творчых сіл: на той час яна была аўтаркай тэкстаў вялікай колькасці песень. Сярод іх — "Соловьи Хатыни» (муз. І. Лучанка), "Восем дзевак, адзін я", "Што за людзі" (муз. Э. Зарыцкага), "Галалёд" (муз. А. Канстанцінавай), "Ксеня" (муз. У. Будніка), "Я артыстка" — гэта апошняя песня на словы А. Тулупавай (муз. В. Сярых) і інш. Багата адораны чалавек, дасканалы ва ўсіх адносінах, Анэля-Неаніла паспела падарыць добрым людзям сваю любоў і знайсці на яе водгук у сэрцах.**

**С. Я.**



# ВАЎЧЫНЫ ЛЁС

Калі б можна было паэтычны зборнік Вольгі Куртаніч "Валавуд" паставіць у адзін шэраг з узорамі фальклорных запісаў, то ён апынуўся б побач з песнямі-галашэннямі. Такі ў яго дух,такі ён мае характар і выгляд. Паганскае ў ім цесна сплецена з хрысціянскім, журботна-трагічныя матывы ў ім пераважаюць над радасна-ўзнёслымі, аўтарская інтанацыя пранізвае сваім сумным рэчытатывам усю вірлівую неруш настраёвага, непаўторнага, глыбінна-пачуццёвага... З дзікім лясным возерам хацелася б параўнаць казачны свет лірыкі В. Куртаніч, прадстаўленай у гэтым зборніку.

Усе добра ведаюць пра беларусаў як пра колішніх паганцаў. Але пазнаёміўшыся з "Валавудам", мімаволі жахаешся: Божа мой, няўжо мы нагэтулькі не апрацаваныя рэлігіяй і цывілізацыяй?! І глядзіш на сябе, нібыта ў люстэрка, і параўноўваеш сваё адлюстраванне з лірычнай гераіняй В. Куртаніч... І ў роспачы ўскрыкваеш: гэта я?! Ды не знаходзіш адказу. Таму што ўся стыхійнасць, неўраўнаважанасць і непакорлівасць нашага нацыянальнага тэмпераменту знайшла сваё ўвасабленне ў лірыцы "Валавуда". Нібы згустак народнай душы як мага паўней выказаў сябе тут вуснамі паэтэсы — што пракрычала нам, здаецца: "Паглядзіце, як я жыву! Я — адна з вас!" І — гэты роспачны крык пачулі. Нехта, магчыма, адгукнуўся на яго.

*У ледзяной абліве стыне дым,*
*на ганку снежным*
*зацішна сабакам.*
*...як хораша:*
*кахацца, піць*
*і плакаць*
*і лёд душы пусціць на крыгалом.*

Гэтая кніга створана як бы для таго, каб раскалоць лядзіны ў вашых сэрцах... У аўтаркі, як на мой погляд, гэта выдатна выходзіць. Яе вершы разварушваюць і раскатурхваюць чытача, трапна б'юць у мішэнь чалавечай душы.

Ёсць яшчэ ў сучаснай беларускай літаратуры аўтары (і ў тым ліку паэты), якія яшчэ не выпрацавалі свайго ўласнага стылю. Іх творы практычна немагчыма адрозніць ад тых, што напісаны іншымі; шэрыя і бляклыя, яны ну проста нічым не вылучаюцца сярод мноства іншых — гэткіх жа невыразных і падобных на ўсе астатнія.

А вось пра В. Куртаніч гэтак не скажаш! Прыкладаў стылізацыі паэтычнага тэксту пад вусную народную творчасць ці ўзоры літаратурнай беларускай паэзіі XIX ст. у зборніку "Валавуд" мноства. У лепшых радках В. Куртаніч мы адчуваем нейкі першабытны душэўны настрой і пафас — яны, гэтыя словы і радкі, адрасаваны пэўным таямнічым сілам, звернутыя да іх:

*Сасню цябе задумнага наскрозь,*
*зняможанага ў свеце тагачасным.*
*І пацалую тройчы,*
*як на шчасце,*
*арошанага тройчы соллю слёз...*

У той жа час у паэтычным стылі зборніка "Валавуд" заўважаем і налёт кніжнасці, аўтарскай "начытанасці". Тут і зварот да лірыкі Л. Дранько-Майсюка, і біблійныя матывы, і творчае пераасэнсаванне досведу мінулых стагоддзяў — эпохі хрысціянства. Менавіта хрысціянская сімволіка ў зборніку "Валавуд" — гэта алівы і пракаветныя руіны, за якімі ўгадваецца Іерусалім), паўднёвае сонца і зыбучы пясок, нагрэты




ім... І ўсё гэта натхняе паэтэсу мроіць і ствараць:

*У трагічнасці гарадоў*
*засыхаюць святыя алівы*
*з тых аліваў,*
*што здаўна маглі,*
*не губляючыся у часе,*
*вартаваць чалавечае шчасце*
*праз біблейскія карані.*

Хацелася б адзначыць і наяўнасць у зборніку самых сучасных, апошніх, выразна феміністычных тэндэнцый. Вобраз каханага ў вершах В. Куртаніч наўрад ці можна дастасаваць да ўжо звыклага ў беларускай літаратуры апявання прыгажосці і радасці, святла і шчасця ў каханні. Для паэтэсы паняцце любові неад'емнае ад паняцця пакуты. Яны ў яе творах непарыўна звязаны. Каханага лірычная



# РЫЦАР І ТРЫ ГРАЦЫІ

***Памяць вяртае ў святое.***
***Толькі душа не маўчы,***
***Бо калі пішуцца словы —***
***Знойдуцца і чытачы.***

**А.Кавалюк**

Перапрашаю тых самых шаноўных чытачоў, але, рад-няволя, змушаны тут прыгадаць і сваё. Не дзеля лішняга напаміну пра ўласнае колішняе вершаскладанне, а дзеля наўпраставай асацыяцыі, якая ў звязку з вышэй згаданай страфой Аўгіння Кавалюк сюды напрошваецца. Мая першая кніжачка вершаў "Таемнасць агню" пачыналася даслоўна так:

*Шукаю чытача —*
*Хаўрусніка душы,*
*Які б з майго пляча*
*Цяжар перапажыў*
*І на сваё плячо...*
*Лягчэй дайшлі б да мэты.*
*Так мала чытачоў,*
*І тыя ўсе — паэты.*

Мінула з той пары дваццаць гадоў, а ўсё, на жаль, засталося па-ранейшаму... Хоць і не зусім...

Бо вось жа ў самім Санкт-Пецярбургу пабачыў свет зборнік паэзіі "Тры грацыі". У вобразе трох грэкарымскіх міфалагічных багінь выступаюць тры беларускія паэткі: Ніна Мацяш, Аўгіння Кавалюк ды Антаніна Хатэнка. Рыцарам жа, альбо "здабытчыкам" гэтага адметнага (яшчэ аднаго замежнага!) выдавецкага праекта ўпершыню заявіўся ўжо вядомы наш літаратар з Паўночнай Пальміры шаноўны спадар Анатоль Кірвель. Ён жа з'яўляецца і укладальнікам "Трох грацый", а па сутнасці і рэдактарам кніжкі.

Зборнік чытаецца свежа і, напраўду, больш выдае на паэзію, чымсьці на вершы. І гэта добры знак, бо ўсё часцей сёння заўважаецца нават і сярод нашых абазнаных майстроў краснага пісьменства, як высокае прызванне паэта неўпрыкмет пераходзіць у нейкі пажыццёва-мусовы абавязак ("Няхай жа хоць будзе Янка Купала"?! — утрырую, бо ён, дзякаваць Богу, ужо ёсць, а сотня новых Александровічаў — навошта?).

У звязку з назовам зборніка па яшчэ адной асацыяцыі мне адразу ж прыпомніўся артыкул Сяргея Дубаўца ў нашым жа "ЛіМе" — "Тры паэзіі", у якім ён спрабаваў давесці, што паэзія ёсць жаночым прызваннем: час ад часу нараджаць новае слова, бо "глыбей за іх (жанчын — **Л.Г.**) у самую сутнасць паэзіі ніхто, бадай, і не пранікаў". Праўда, для пацвярджэння сваіх слоў, апроч высокага *"ўзроўню майстэрства Габрыэлы Містраль"*, ён больш не прыводзіць аніякіх аргументаў... І вельмі сярдуе на "сярэдняе пакаленне" беларускай паэзіі, да якога, у нашым выпадку, якраз і падпадаюць Ніна Мацяш і Аўгіння Кавалюк. *"Дэкаратыўнасць, тая ж звернутасць пачуцця "ўсярэдзіну"*, — піша ён пра згаданае пакаленне сучасных паэтак, — *тыя ж шоры агульнапрынятасці... Яны не стыхійныя, не непрадказальныя. Розніца ж іхніх паэзій паміж сабой — не ў адрозных "станах душы", а зноўтакі ў назыўных аўтабіяграфічных фактах. Зрэшты, і біяграфіі нашых паэтак, іх лёсы таксама падобныя."*

Супрацьпастаўляе ж спадар Дубавец скрытыкаванаму ім пакаленню трох нашых вядомых паэтак — цяпер ужо нябожчыц: Яўгенію Пфляўмбаўм, Ларысу Геніюш і Наталлю Арсенневу.




І калі тое-сёе падкарэктаваць адносна сённяшняга дня, дык амаль супадуць не толькі назвы рэцэнзуемага тут зборніка і артыкула Сяргея Дубаўца, але пэўным чынам і "падабенствы" прадстаўленых там і тут постацяў беларускіх паэтак.

Не раўназначныя яны па таленце і грамадскай асабовасці, запярэчыце? Бадай, пагаджуся. Але ж я не тое маю на ўвазе. Я разважаю, найперш, пра пераемнасць, а не пра параўнанне іх паэтычных талентаў. А зрэшты, чым вось гэтыя радкі "чыстай красы" Аўгінні Кавалюк саступаюць тым, якія прыводзіць спадар Дубавец з вершаў улюбёных ім паэтак:

*Паэзія, твае сляды*
*На травах, на пясках, на водах...*

гераіня можа пякуча ненавідзець і нават клясці (што цапкам адпавядае сучасным рэаліям нашага жыцця):

*...то йдзе прытомны,*
*мой Адзін-адзіны*
*са словамі, як вёрткія вужы,*
*з усмешкамі, як слізкія смаўжы,*
*з вачыма, як халодныя глыжы,*
*і на вяроўцы лёс вядзе ваўчыны.*

Пабудаваны зборнік вельмі цікава. Ён складаецца з некалькіх паэм, якія ўяўляюць сабой адначасова і цыклы вершаў, — з'ява наватарская і для сучаснай беларускай паэзіі вельмі рэдкая. Кожная з частак паэмы (ці кожны верш) — гэта па-майстэрску літаратурна апрацаваны ўрывак. Гэта як бы кавалак душы, зафіксаваны ў слове і данесены да нас праз мастацкія вобразы. Сапраўднае ўмельства аўтаркі выявілася ў тым, што асобныя часткі зборніка "Валавуд" вызначаюцца сэнсавай і кампазіцыйнай завершанасцю.

Але ж усё роўна, нягледзячы на закончанасць асобных частак і самога зборніка, захоўваецца нейкая расплывістасць, неакрэсленасць, безразважлівасць (магчыма, гэтыя рысы ўласцівыя любой славянскай душы)... Трэба падкрэсліць, што нішто не парушае спрадвечную гармонію, у якой знаходзяцца ў зборніку ўсе яго часткі — "пальцы адной рукі". Адзіная задума і стылёвая цэласнасць аб'яднаныя ў зборніку В. Куртаніч адной рамантычнай марай, і можна сказаць, што гэтая Мара і з'яўляецца асноўнай ідэяй кнігі, тым, дзеля чаго яна і была напісана. І наогул зборнік "Валавуд" вельмі няпросты, і адназначнасці ў ім ніякай няма, колькі ты яе ні шукай. Ускладненасць, якая ўсё паглыбляецца ад твора да твора, з кожным наступным вершам, выяўлена і ў мове зборніка. Колькі тут слоў-наватвораў, устарэлай лексікі, колькі сапраўднага моўнага харастваі разам з тым — моўнай экспрэсіі!

*Прыйдзе восень самотная,*
*з пылам,*
*і напіша на тонкім запясці*
*кроўю з венаў маіх астылых*
*ліст табе*
*з пажаданнем шчасця.*

*І у вузкім яе цісненні*
*каля дрогкага кісці закружжа*
*душагубным самохаць ценем*
*абайме,*
*каб твой сон парушыць.*

Зборнік лірыкі В. Куртаніч "Валавуд" — з'ява для сучаснай беларускай літаратуры нетрадыцыйная. Гэта бліжэй да ўзору авангарднай паэзіі. А магчыма, усё ж фальклорная класіка і рамантычная плынь мінулага стагоддзя, перастворaныя на новы лад?.. Класічную спадчыну паэтэса "прапусціла праз сябе". І атрымалася гэта ў яе цудоўна. Пацвярджаючы поўную пераемнасць беларускай паэтычнай традыцыі ад дзён мінулых да сучасных.

*З дзікіх вырабце ранетаў*
*жалю поўныя кларнеты.*
*З белае таполі —*
*выражце басолю.*
*З маладзенькіх ліпачак*
*нарабеце скрыпачак,*
*ды смычкамі з вольхі*
*згаласіце польку.*

Ды і самі па сабе назвы цыклаў-паэм з кнігі "Валавуд" звязваюцца ў нашай свядомасці з XIX — пачаткам XX ст., калі з'явіліся першыя надрукаваныя на беларускай мове кніжкі — паэтычныя зборнікі Я. Лучыны, М. Багдановіча... (Напрыклад: "Цар", "Ваўчыха" і інш.). Тое ж "мора" язычніцкай слоўнай, літаратурнай стыхіі, якое быццам бы плешча ў іх, б'ецца сваімі хвалямі і ў сучасных вершах В. Куртаніч. Зборнік прыгожа аздоблены беларускім нацыянальным арнаментам, які нібы "адцяняе" змест кнігі. А выдадзены ён пры дапамозе экс-прэм'ера і экс-мэра Мінска Уладзіміра Ярмошына. Ёсць, аказваецца, у нас і такія мецэнаты!

**Святлана ЯВАР**

---

*Ты — сонца блік,*
*паветра подых*
*І філасофія жыцця...*
*Бездапаможнае дзіця...*
*Жывеш,*
*паэзія мая, —*
*Жыву*
*і я...*

Як ні дзіўна, мне лепш дапалі вершы Аўгінні Кавалюк. Ды яны і не вершы ў пэўным сэнсе паэтычнага канона, не зробленыя і нават не выпакутаваныя радкі, а выпадковыя, подыхам лёсу "сарваныя з языка", словы. Тым і каштоўныя — самаахвярнасцю дзеля пазнакі аўтарскага выраку...

Наўрад ці больш за Аўгінню вядомая нашым чытачам, як паэтка, і Антаніна Хатэнка, хоць у адрозненне ад піцеркі А.Кавалюк, жыве ў сталіцы сваёй дзяржавы. Дзеля справядлівасці заўважым, што ўсе тут выдрукаваныя вершы напісаныя спадарыняй Антанінай болей за дзесяць гадоў назад, але, як зазначае ва ўступе да іх Анатоль Кірвель, "сапраўдная паэзія мае адну адметную якасць: яна ніколі не бывае позна!" Альбо, як піша ў адным сваім вершы сама А.Хатэнка:

*Пад сонцам прышлае міне,*
*а вечнае дыхне са споду.*

Адносна ж Ніны Мацяш цяжка сказаць нешта новае. Нават ёй самой. Паэтка дасягнула вяршыні паэтычнага майстэрства і прызнання. Гэтак мне, узіраючыся збоку, здаецца.

Спадарыня Ніна гэтым разам прэзентуе чытачам зборніка вянок санетаў "Бабіна лета ў Белаазёрску". Гэта салодка-горкі ўспамін пра маладосць, пра першае каханне, калі "мы чыстыя былі, як дзве слязіны..."

*Калі б тады не стрэлася з табою,*
*Што ведала б цяпер я аб любові?*
*Аб небе? пекле? смерці? —*
*аб жыцці?... —*

скрушна-ўзрушана дапытваецца яна ў сваёй жаночай існасці...

І пакутуе "на вечнасць": не ў цялесным сэнсе і нават не ў слаўна-помным спадзеве, а ў яе філасофскім разуменні, як бесперапыннай чалавечнасці і дабратварэнні. Якім верніку "бачыцца" Бог, прыкладна такім паэту ўяўляецца і дасканалы Чалавек будучага... Але гэта яшчэ калі?! А сёння:

*Мы часовыя. Адмысловыя.*
*Непаўторныя тут былі.*
*Застанемся ў прасторы словамі*
*і насеннейкам у раллі.*
*...........................*
*Мы сустрэчныя-папярэчныя*
*рысы Богавай далані...*
*Падарожнікі векавечныя,*
*мы спаткаемся ў сонцадні.*

Гэтак выслаўляецца спадарыня Хатэнка. Пакуль жа мы — думаем, мроім, пішам... "Шукаем чытача", каб выгадаваць нашчадка-творцу, які б, па словах спадара Дубаўца, *"ахоўваў прамацярынскі агонь беларускай паэзіі"*...

Пра тое сведчыць і паэзія нашых "трох грацый", якіх звёў лёс пад адным Небам дзеля ўхвалы адной Айчыны... Анатоль Кірвель па-рыцарску "звіў ім папяровае гняздо" для часовага "дзявочага" прытулку, ды дзе там — выпырхнулі яны з вострага падстрэшша кардонных вокладак, і — лаві...

*Бегла я за голасам,*
*Толькі вецер змыў.*
*Ён са спелым коласам*
*Ад мяне адплыў.*
*Бегла за вясёлкаю*
*І яе няма.*
*Толькі поле колкае...*
*Бегла недарма:*
*Бегла за каханнем*
*Сцежкаю жыцця —*
*На руках трымаю*
*Роднае дзіця!*

З чым і віншуем. Усіх трох. Вядома і спадара Кірвеля, як, *віноўніка* — таксама.

**ЛеГал**

---

**ЮБІЛЕІ**

***Паэту Уладзіміру ПЕЦЮКЕВІЧУ 1 сакавіка споўнілася 60 гадоў. Нарадзіўся ён у в. Цяцеркі Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Закончыў Беларускі інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Працаваў у адной з будаўнічых арганізацый, у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Выступае ў друку з 1975 года. Падборкі яго вершаў уключаны ў калектыўны зборнік "Лагодны промень раніцы" (1988) і "Браслаўшчына азёрная мая" (1998). У. Пецюкевіч — вядомы паэт-песеннік: на яго вершы напісалі песні кампазітары Дз. Даўгалёў, Л. Захлеўны, П. Яроменка і інш., а Дз. Даўгалёў стварыў на іх яшчэ і араторыю "Зорка Палын".***

***Рэдакцыя нашага штотыднёвіка зычыць юбіляру здароўя, далейшых творчых поспехаў і натхнення.***

**Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ**



## БАЛАДА

*На гнядым звінела срэбраная збруя,*
*Біў ён капытамі ў прадчуванні сеч...*
*Дзеўчына-красуня у дарогу злую*
*Хлопцу маладому падавала меч:*

*— Любы мой, харошы, сокал мой адважны,*
*Ад варожай зграі барані наш край,*
*Будзе мне трывожна, будзе мне і страшна,*
*Будзеш ты мне сніцца, родны мой, бывай!*

*Барані сцяжынкі там, дзе мы хадзілі,*
*Дзе спявала наша зорная вясна,*
*Барані каханне, барані Радзіму,*
*Барані, святую, — ў нас яна адна!..*

*На гнядым звінела срэбраная збруя,*
*Біў ён капытамі ў прадчуванні сеч...*
*Дзеўчына-красуня у дарогу злую*
*Хлопцу маладому падавала меч.*

## АСЯНІНЫ

*Ранак ззяе так прасветла і шчымліва,*
*Нібы грае на жалейцы жураўлінай, —*
*Сёння кожны двор прыбраны і гасцінны —*
*Асяніны, асяніны, асяніны!*

*Хто там стукнуў у акенца зухавата?*
*Мо Дзяды ўжо на двары? гукнем у хату.*
*Паднясем мы ім свае дары-даніны —*
*Асяніны, асяніны, асяніны!*

*Спелых яблыкаў і хлеба свежы водар.*
*Верашчака і бліны ды чарка мёду —*
*І пальюцца задушэўныя ўспаміны —*
*Асяніны, асяніны, асяніны!*

*Людзі добрыя, у госці завітайце,*
*Будзем разам мы з Дзядамі частавацца!*
*Сёння свята нашай Памяці глыбіннай —*
*Асяніны, асяніны, асяніны!*

## ДРУЖА, НЕ СУМУЙ

*Адцвіла вясна — не да песень птушкам,*
*Ці не час і нам прыцішэць, мой дружа?*
*Казка — маладосць, ды, на жаль, мінае.*
*Хай твая душа цяжка не ўздыхае.*

*Ну іх, братка мой, гэтыя залёты:*
*Ані ўночы сну, ані ўдзень работы!*

*Годзе ўжо хмялець ад дзявоцкіх чараў,*
*Годзе па начах брынкаць на гітары.*
*Вокны да зары аганькамі ззяюць —*
*Мацяркі не спяць, блуднікаў чакаюць.*

*Ну іх, братка мой, гэтыя залёты:*
*Ані ўночы сну, ані ўдзень работы!*

*Ты сваю знайшоў, я сваю нагледзеў,*
*Дружа, не сумуй, што ў сваты паедзем.*
*Як бы ні гуляў і сябе ні цешыў,*
*Ды ўступіць пара сцежку маладзейшым.*

*Ну іх, братка мой, гэтыя залёты:*
*Ані ўночы сну, ані ўдзень работы!*

## СІНЯЯ ПТУШКА

*Мастаку М. Кірэеву*

*Мелодыя колеру, музыка ліній*
*Чаруе-хвалюе нябеснай красой:*
*Узносіць угору за птушкаю сіняй,*
*А сіняя птушка звініць вышынёй.*

*Мелодыя колеру, музыка ліній*
*Узносіць угору за птушкаю сіняй.*

*А сіняя птушка мільгае ў прасторы,*
*Кувае зязюляй, пяе салаўём,*
*Імкнецца да сонца, імкнецца да зораў,*
*Здалёку махае прывабна крылом.*

*Мелодыя колеру, музыка ліній*
*Узносіць угору за птушкаю сіняй.*

*А сіняя птушка іскрыцца вясёлкай —*
*Дарога пад казачнай брамай святла,*
*Да райскага саду, здаецца, два крокі,*
*Дзе сіняя птушка гняздзечка звіла.*

*Мелодыя колеру, музыка ліній*
*Узносіць угору за птушкаю сіняй.*

## БУДСЛАЎСКАЯ БОЖАЯ МАЦІ

*Будслаўская Маці — заступніца наша,*
*Не раз памагала Ты нам сустаць —*
*Калі ўсё наўкола гуло і стагнала,*
*Малілася Ты — і знікала напасць.*

*З надзеяй прасветлай, з малітвай удзячнай*
*Глядзім мы на Твой цудатворны абраз.*
*Будслаўская Маці — заступніца наша,*
*Маліся, маліся, маліся за нас!*

*Прасі ў Свайго Сына нам гэтакай сілы,*
*Каб грозны Чарнобыль адолець змаглі,*
*Свой Дом беларускі ўсім сэрцам любілі*
*І мову бацькоўскую ў ім берaглі.*

*Прасі ў Пана Бога, каб сонца і зоры*
*Святлей асвяцілі нам шлях да Нябёс,*
*Каб мы ўжо ніколі не зведалі гора:*
*Ні жальбы сіроцкай, ні ўдовіных слёз...*

*З надзеяй прасветлай, з малітвай удзячнай*
*Глядзім мы на Твой цудатворны абраз.*
*Будслаўская Маці — заступніца наша,*
*Маліся, маліся, маліся за нас!*

ЛІМ-ЧАСАПІС

# РАНЕЙ БАЧАНЫ СОН

Нядаўна ў выдавецтве "Тэхнапрынт" выйшла кніга вершаў Юрыя Юлава "Сон-дежавю". Яна, як сказана ў анатацыі, "даўкамплектоўвае" папярэдні зборнік "Монодия", выдадзены год таму.

"Боюсь разочаровать поклонников изящной словесности...» — як бы перасцерагае нас аўтар у прадмове. Сапраўды, "Сон-дежавю" саступае "Монодии" ў лірызме, філасафічнасці, тэматычным прасцягу: аўтар з вопытным рэдактарам, вядомым паэтам Анатолем Аўруціным, адбіралі для першага зборніка больш паэтычна "насычаныя" вершы. Але гэта зусім не значыць, што ў "Сон-дежавю" патрапіў матэрыял нізкага гатунку. Проста тут пераважна змешчаны творы, якія першапачаткова пісаліся як тэксты для бардаўскіх песень і не думалі жыць асобна ад музыкі.

І таму ў гэтым кароткім аглядзе хочацца размаўляць не з аўтарам зборнікаў фантастыкі Юрыем Юлавым, не з беларускамоўным творцам Юрасём Нератком (гэта яго псеўданім), і нават не са сталым вусатым мужчынам, што маляўніча прыхіліўся да плота на задняй вокладцы зборніка "Сон-дежавю", а з маладым чалавекам з гітарай, чый фотаздымак змешчаны ў прадмове да памянёнага зборніка. Гэта не "юноша бледный со взором горящим", а даволі дзёрзкі творца, які прыйшоў у гэты свет з цвёрдым намерам яго пакарыць. Ён, думаецца, і ёсць лірычны герой усяе кнігі.

Практычна з першых жа старонак лірычны герой заяўляе нам, што "Судьба дана всего одна — і та не та..." Але ён не хоча мірыцца са сваім лёсам і амаль адразу папярэджвае: "Меня пока не встретишь в Красной Книге — я сам себя сумею защитить". Матыў незадаволенасці жыццёвымі абставінамі і апантанае жаданне падпарадкаваць іх сабе прасякае ўвесь зборнік Юлава.

Хлопец з гітарай — натура надзвычай дзейная. Ён патрабавальны як да сябе, так і да таварышаў, каханай, прыроды. Ён крыўдуе на ненадзейных сяброў, перажывае ад нявернасці каханкі ("Променял меня нынче пес / на прекраснейшую из сук"), але доўга не бядуе, не паддаецца вялай меланхоліі, а зноўку дамагаецца дружбы, кахання: "Я встречу ветер южный наперекор зиме! / Когда нельзя, то нужно, то хочется вдвойне".

Каханне асабліва важнае для лірычнага героя, і калі там нелады, то ён гатовы на многае: "Я жизнь, как срок, отбуду и уеду / на службу вечную в безвестные края". Хітруе: ён аптыміст і неўзабаве сячэ дровы для начнога кастра, ля якога яны зноў стрэнуцца з ненагляднай; ладзіць будан, дзе яны будуць жыць; нават узводзіць бетонны мост, па якім прыйдзе да яго каханка. Герой не самалюбны, ён часцяком прыніжае сябе ў яе вачах, і даволі смела: "я ж для тебя понятен и вульгарен, / как одеяло с вышивкою «ноги». Ён, бадзяга, вечны шукальнік любові, праўды і шчасця, які ў цяжкія хвіліны, здарожыўшыся, кажа: "И никто не любит — только солнышко — / бедного несчастного странника...". Ён філосаф: "Жить не учи, чтоб не прослыть ханжой. / Жизнь не ругай — в зануды не спеши, / А лучше пой мне о любви чужой / под переборы струн моей души!" Ён тонкі лірык, гэты хлопец з гітарай: "А вот оторвался и падает вниз, / летя стороной, / последний озябший осенний лист / от ветки родной". І яшчэ ён паэт, здатны знайсці прыгожае ў любой праяве жыцця, нават сярод бруду і хламу: "А пластинки с поцарапанными песнями / стерегли давно не мытый коридор..." — гэта цытата з песні "Сон-дежавю", якая і дала назву зборніку.

Але ўсё ж ключавымі ў гэтай кнізе Юрыя Юлава, мне думаецца, з'яўляюцца радкі: "Зло из ветвей вурдалаком завыло, / мрак на горе черный плащ распростер. / Стало темней, да и холодно было... / Но загорелись звезда и костер". Бо ў нашым тлумным жыцці менавіта такія нязводныя аптымісты, апантаныя песняры круцяць зямны шар ды запальваюць зоркі і вогнішчы...

Міхась ЮЖЫК

ПАЭЗІЯ

Уладзімір МАЗГО



## НА КРЫЛАХ УСПАМІНАЎ

•

*Гайдаемся няспынна*
*На крылах*
*Успамінаў.*

*Купаемся ў мінулым,*
*Што ў часе*
*Патанула.*

*Няўжо яго планіда,*
*Як тая*
*Атлантыда?..*

•

*У згадках лунаю*
*Над роднай зямлёю,*
*Што ўсе называюць*
*Радзімай малою.*

*Бацькоўская хата*
*Світае здалёку —*
*Спрадвечны пачатак*
*Дарог і вытокаў,*

*Любімы куточак*
*У роднай старонцы.*
*Купальскі вяночак*
*Гайдаецца сонцам*

*На зэльвенскім моры*
*Пад плёскат Зальвянкі,*
*Дзе росы, як зоры,*
*На твары ў каханкі...*

*Малюе абрысы*
*Радзіма малая*
*То песняй Ларысы,*
*То вершам Таўлая,*

*Царквы ля Сынковіч*
*Сцяной крапасною,*
*І сцежкай, што ў змове*
*З юнацкай вясною...*

*Я памяць паклікаў —*
*І кажа былое:*
*Радзімы вялікай*
*Няма без малое.*

•

*Наша лета цвіло,*
*наша лета гуло*
*над зямлёю.*
*І спявалі ад шчасця,*
*спавітыя хвалямі,*
*мы.*
*І так лёгка было,*
*і так светла было*
*ля прыбою.*
*І бясконца*
*далёка было*
*да самотнай зімы.*
*І няхай*
*на двары ці зіма,*
*ці адчайная восень,*
*І няхай*
*залаты лістапад,*
*ці густы снегапад уначы,*
*Толькі нам —*
*паміж зімаў халодных*
*і сонечных вёсен —*
*Сніцца хай*
*летні рай,*
*ад якога згубілі ключы.*
*Можа,*
*вернецца зноўку да нас*
*тое цёплае лета,*
*Дзе сляды нашы*
*хвалямі змыла*
*марская вада.*
*Возьмем вось*
*і закажам на заўтра*
*два новых білеты,*
*Сабяром рукзакі —*
*і да сонца і мора —*
*гайда!..*
*І няхай*
*на двары ці зіма,*
*ці адчайная восень,*
*І няхай*
*залаты лістапад,*
*ці густы снегапад уначы,*
*Толькі нам —*
*паміж зімаў халодных*
*і сонечных вёсен —*
*Сніцца хай*
*летні рай,*
*ад якога згубілі ключы.*

•

**Якаву Навуменку**

*У марафоне дзён,*
*Начэй*
*Наш час бяжыць*
*Усё хутчэй.*
*Нічым*
*Ягоны бег не спыніш.*
*І недзе ўжо*
*Чакае фініш.*

*А я жыву,*
*А я люблю*
*Да болю родную*
*Зямлю,*
*Якой*
*Без кропелькі адчаю*
*Жыццё, як песню,*
*Прысвячаю.*

*Тут немагчыма*
*Не спяваць:*
*Крыніцы*
*Песнямі звіняць,*
*Танцуе*
*Сцежка палявая.*
*Уся зямля мая*
*Спявае.*

*Я ёй удзячны*
*Ўсёй душой,*
*Што акрыліла*
*Голас мой,*
*Які звініць*
*І замірае,*
*Нібы жаўрук*
*Над родным краем.*

•

*Далеч белая —*
*Мора снягоў,*
*Што выходзіць зімой*
*З берагоў.*

*І куды мы*
*Ні кінем пагляд:*
*Белы сон,*
*Белы сум,*
*Белы сад...*

*Закружыў,*
*Загучаў*
*Белы вальс —*
*Падружыў,*
*Павянчаў*
*З песняй вас.*



Мечыслаў ШАХОВІЧ



## НАМ ЯГО НЕ ХАПАЕ

*Шчодрая мядзельская зямля.*
*І на дабрыню не скупая.*
*Чую дыханне яе здаля...*
*Ды чагосьці нам не хапае.*

*Пралятаюць імкліва гады...*
*А паэзія Танка грэе...*
*Ён для нас, як раней малады.*
*І паэзія не старэе.*

*Як без жаўранкі і буслоў,*
*Як без цёплага летняга ранка —*
*Так нам сумна без мудрых слоў*
*Беларуса Максіма Танка.*

*Нашу сонейка ў сэрцы я —*
*Нараджаюцца песні ўранку.*
*Прызнаюся, Нарач мая:*
*Не хапае Максіма Танка.*

## У НАШЫХ СЭРЦАХ ЖЫВЕ

*Чэрвень трагічны. Сорак другі.*
*Зорка ў бяздонне упала.*
*Нічым не змерыць людской тугі:*
*Загінуў Янка Купала!*

*З той далёкай трагічнай пары*
*Вады уцякло нямала.*
*Зорка паэзіі ярка гарыць.*
*Янка Купала...*

*Праз імклівыя ўсе гады*
*Як нам Песняра не хапала!*
*Ён і сёння такі ж малады.*
*Янка Купала...*

*Папараць-кветку шукайце ў траве.*
*Паэзія не памірала.*
*У нашых сэрцах жыў і жыве.*
*Янка Купала.*

***

*Відаць, і нарадзіўся я такім,*
*Каб мне не жыць з тугою у сталіцы.*
*Застаўся я сялянскім і зямным.*
*Мне і буслам, і кнігаўкам маліцца.*

*О, як бы прамяняў я горад свой*
*На хутар, што не вернецца ніколі,*
*З Ясенінскай бярозкаю, сасной,*
*Знаёмымі з маленства мне да болю!*

*І куды мы*
*Ні кінем пагляд:*
*Чысты аркуш зімы —*
*Далягляд...*

## СНЯГІ

*А снег*
*Кружыўся на Раство*
*І дзень,*
*І ноч,*
*І ранне...*
*Якое гэта хараство:*
*Снягоў калядаванне!..*

*Снягі прыносяць*
*На парог*
*Завейную крамолу*
*І не чакаюць, —*
*Бачыць Бог! —*
*На фэст*
*Твайго дазволу.*

*Ты ім не скажаш,*
*Што яны*
*Сягоння недарэчы*
*Крыляюць,*
*Нібы бацяны,*
*Хаця душа —*
*Пярэчыць...*

*Снег апячэ,*
*Нібы агонь,*
*Растане*
*Пад абцасам,*
*А потым ляжа*
*Нам на скронь, —*
*Наканаваны часам.*

## МУЗА

*Калі цябе*
*Шчэ не было*
*Ў маім жыцці*
*Наогул,*
*Маладзіковае святло*
*Асвечвала дарогу.*

*Маркотней*
*Сцішаны абшар,*
*У зоркавых вяснушках.*
*І трапяталася*
*Душа*
*Зняволенаю птушкай.*

*Але*
*Праз некалькі хвілін,*
*Як знак выратаванню,*
*З нябёс гучаў*
*Птушыны гімн*
*Спрадвечнаму каханню.*

*Імчайся*
*Золак залаты*
*У сонечнай карэце...*
*І я адчуў,*
*Што гэта Ты*
*З'явілася нарэшце.*



**ПРОЗА**

# ДАК

### Апавяданне

Анатоль БАРОЎСКІ

Змітрок вельмі хацеў мець маленькага цюцьку.

Яго кожны раз агортваў сум, калі заставаўся дома на адзіноце. Во каб то ў яго брацік быў ці сястрычка, то ўжо зусім інакш пачуваў бы сябе, — ён з імі бавіў бы час, гуляў па вуліцы, хадзіў бы ў кіно, — ды ці мала чым можна было б заняцца... А тут — ні жывой душы, маркотная адзінота.

— Тат, а тат, ну купі мне сабачку, га...

Бацька адарваўся на момант ад свайго занятку — ладзіў прас, што перагарэў надоечы, паглядзеў на Змітрака:

— А хто ж за ім прыглядваць будзе? Яго ж трэба раніцай выводзіць на вуліцу, а ты моцна спіш у гэты час... Карміць трэба, даглядаць, адказнасць браць на сябе за яго.

Сын апусціў галаву, адчуваючы, што і бацька кажа праўду, але ўсё роўна не адступаўся ад свайго:

— Я пра ўсё ведаю... Купі, га?

— Вось пазбаўся сваіх "траякоў" па вучобе, тады і куплю.

— Праўда, тата? — загарэліся радасцю вочы ў хлопчыка. — Не падманіш?

— Не падману.

Бацька сказаў, каб толькі адчапіцца ад сына. У яго былі на гэты конт свае меркаванні: за жывой істотай трэба догляд. Вунь колькі на вуліцы пакінутых сабакаў бадзяецца — нагуляюцца дзеці, а потым бацькі выганяюць чатырохногіх сяброў на вуліцу. Жыві, як хочаш. А іншыя і пракарміць не могуць. Вунь якое сёння жыццё — кожную капейчыну лічыш, вылічваеш, каб размеркаваць усё і не памерці з голаду. Спадзяваўся, што перагарыць сын у сваім жаданні і тады ўсё адпадзе само сабой.

Змітрок падышоў да акна, глядзеў скрозь шыбы, як на двары падае лапісты снег, глядзеў на шэрае сутонне, і з яго вачэй беглі слёзы крыўды. Да маці ён зусім не звяртаўся са сваёй просьбай, бо яна апошнім часам нейкая злая, сварыцца без дай прычыны — на бацьку, на яго. А найчасцей, калі пойдзе па крамах нешта купіць, каб згатаваць паесці. Ён загадзя ведае, што яна адкажа, калі сунешся да яе са сваімі просьбамі...

Які быў здзіўлены бацька, калі пад новы год сын паказаў яму свой дзённік. За чвэрць не было ніводнай "тройкі".

— Ты абяцаў, тата... Я сваё слова стрымаў. Цяпер чарга за табою. І вось што я скажу табе — цяпер я буду вучыцца толькі на "чатыры" і "пяць".

Сын чакаў адказу, а бацька хмурыў бровы, ніяк не мог прызнаць сваё паражэнне.

—У цябе вунь і шапкі няма добрай, трэба купіць...

— Нічога, мне і ў старой цёпла. Купі лепей сабачку.

— Што ж, — уздыхнуў бацька, — будзе ў цябе чатырохногі сябар. Добра.

Кожны дзень чакаў Змітрок, калі бацька прыйдзе з работы. Калі стрымае сваё слова. З хваляваннем чакаў, калі бацька цаляў ключом у шчыліну замка, калі адчыняў дзверы, — і расчаравана чуў, што маленькая істота не падавала голасу. Сын не прыставаў да бацькі — даў жа слова.

Тое здарылася ў пятніцу.

Гаспадар прыйшоў дадому позна, пад поўнач. Змітрок ужо ляжаў у ложку, але сон чамусьці не ішоў да яго. У школе пасварыўся са сваім лепшым сябрам Антонам — той прыставаў з падкавырыстымі пытаннямі пра сабаку, казаў, што не ўбачыць Змітрок яго, як не ўбачыць учарашняй ночы. Здзекаваўся, канечне ж, каб пазлаваць яго, Змітрака. Скрозь дрымоту здалося, што на вуліцы, пад акном, заскавытаў цюцька. Жаласліва так, як просячы дапамогі. Ён прыслухаўся яшчэ пільней — не, здаецца, не на вуліцы, недзе бліжэй. Тады — дзе?

Не здагадваючыся пра радасць, якая агорне яго праз хвіліну, выйшаў у калідор. На газеціне, якую падаслаў бацька, сядзеў шчанючок і хлябтаў з місы малако.

Змітрок не паверыў сваім вачам.

— Дамогся свайго? — пагпядзела маці на сына, але на гэты раз гаварыла нязлосна, нават усміхалася, што ў сына з'явілася маленькая радасць.

— Татачка, дзякую, — прытуліўся Змітрок да пляча, абняў бацьку, і не ведаў, якія яшчэ добрыя словы сказаць яму.

Шчанюк быў не пародзісты, Змітрок адразу зразумеў, але тое ўжо не мела абсалютна ніякага значэння. Яны пасябруюць, паразумеюцца, між імі будзе суладдзе, і цяпер Змітраку будзе каму выказаць свой душэўны боль, дзіцячыя сумненні, нават зможа параіцца з ім па жыццёвых пытаннях. А ёсць жа пытанні, якія не даверыш нават маці і тату — пра Сусвет, ад чаго баліць душа і нагортваецца нечакана крыўда, чаму няма ладу ў сям'і, чаму маці штодзённа сварыцца і бурчыць...



Міналі дні, месяцы. З няўклюднага цюцькі вырас прыгожы і вёрткі, з разумнымі вачыма, сабака. Ён спаў на старым шынелку, у якім некалі бацька прыехаў з войску дадому. Змітрок раніцай, да школы, выбягаў з ім на вуліцу, карміў, даглядаў.

Пераменіўся Змітрок. Стаў больш акуратны, як бы і пасталеў. І ў школе ў яго добра ішлі справы — настаўніца толькі дзівілася такой перамене.

Дак — так назваў хлапчук цюцьку. Слова "відак" — раздзяляў на дзве палавіны. Вось другая палавінка і стала вызначальнай.

Вясной, калі пацяплела, Змітрок пасяліў Дака ў будцы, якую змайстраваў бацька. Дак праводзіў Змітрака нават да школы, а потым вяртаўся да будкі. Ведаў, калі гаспадар прыйдзе, — бегаў сустракаць.

Потым было лета. Цэлае лета разам — і днём, і ноччу. Дак разумеў кожнае слова Змітрака, толькі адказваць не ўмеў.

Першага верасня ў школу зноў пайшлі разам. Калі Змітрок стаяў на школьнай лінейцы, Дак схаваўся за прыбудоўку і адтуль назіраў за школьным святам.

Сустракаў свайго гаспадара радасны і ўзбуджаны — сумаваў без Змітрака...

Цёплай была восень. Потым нечакана выпаў ранні снег. Кожны дзень прыбягаў Дак да школы, на прывычным месцы сядзеў і чакаў, калі расчыняцца дзверы і з радаснымі воклічамі высыплюць дзеці на вуліцу...

І кожным разам радаснай была сустрэча.

А аднойчы Дак не сустрэў Змітрака — не было яго на ранейшым месцы. Нешта нядобрае падкацілася да грудзей, няўцямнае горычнае прадчуванне апякло дзіцячае сэрца.

Дака ў будцы не было. Не было яго і ў хаце — думаў, мо хто зачыніў яго там. Змітрок абабег увесь гарадок, усю ваколіцу — і следу нідзе не было. Распытваў, нават аб'яўку напісаў і расклеіў па слупах, як тое рабілі іншыя, хто губляў сабак, — ніхто не адгукнуўся.

— Не перажывай, сын, — супакойваў бацька, — мо дзе пад машыну папаў, ці мала што магло здарыцца...

У голасе бацькі спагады і спачування не было, як усё роўна ведаў, што такі лёс мог напаткаць Дака.

— Не мог ён папасці пад машыну, — пярэчыў сын, не стрымліваючы слёз, — я яго навучыў бегаць далёка ад дарогі... Ён усё-ўсё разумеў.

Сын плакаў усё больш і больш, балюча перажываў страту свайго малога сябра.

— Мой знаёмы абяцаў табе добрую шапку зрабіць, правільней, пашыць, — ні з таго ні з сяго прамовіў бацька, — бо вунь якія маразы пачалі пякці на вуліцы...

У сына ўздрыгвалі плечы. Перад вачыма стаяў Дак і разумным позіркам паглядаў на яго, нібы нешта хацеў сказаць ці растлумачыць...

Дак потым прыходзіў і ў сны. Яны разам бегалі па лузе, гулялі ў хованкі. А ў апошнюю ноч прыснілася нешта неверагоднае. Дак бегаў побач, а потым ператварыўся ў шапку, пытаўся, ці падабаецца ён яму такім.

— Дзе ты, Дак? — пытаецца Змітрок, глядзячы на яго. — Дзе ты?

— Ды тут я, хіба ж не бачыш? То я перад табою... Затое табе будзе цёпла, Змітрок. А за мяне не перажывай.

Змітрок адразу прахапіўся. Доўга не мог зразумець, чаму такі прысніўся сон.

Вечарам у хату ўваліўся бацька. Быў ён на добрым падпітку, вясёлы. Ад яго несла гарэлкаю, часнаком.

— Ну, сын, радуйся! Цяпер не будзе халадна тваёй галаве, — бацька пахіснуўся, ідучы да яго, выцягнуў з сумкі пышную шапку. На, бяры, насі. Цяпер мароз для цябе нястрашны. То дзед Мартын пашыў табе такую прыгожую.

Хлопчыка як бы токам праццяла ўсяго — з галавы да ног: ён пазнаў тую шапку, якую бачыў у сне. Шапка замест Дака. Нешта балюча пеканула ў левым баку, у грудзях, потым шпырнула ў скроні — і ўсё захісталася, закружылася перад вачыма.

— Гэта ты... гэта ты забіў яго... гэта ж Дак, а не шапка. То ты забіў Дака! — закрычаў што было сілы Змітрок, замахаў рукамі і не ведаў, куды падзець сябе і што рабіць. Ён не памятаў ужо сябе — гора адабрала ад яго пачуццё свядомасці.

— Што ты пляцеш?! — пакрыўдзіўся бацька, і тут жа, як штосьці зразумеўшы, прытуліў моцна да сябе сына, які біўся ў дзіцячай гарачцы, якой з ім ніколі не было, стараўся адабраць ад яго боль, суцішыць хаця б, але тое ніяк не ўдавалася зрабіць...

З сынам рабілася нешта неверагоднае і незразумелае.

Нават маці перапужалася, не ведала, якой даць рады. І нічога лепшага не прыдумала, як выклікаць хуткую дапамогу.

Доктар зрабіў супакойваючы ўкол. Пацікавіўся, што здарылася. Гаспадар мусіў прызнацца ва ўсім.

— Вы сыну нанеслі непапраўную вялікую душэўную траўму, — уздыхнуў доктар — пажылы, у акулярах чалавек, — не ведаю толькі, ці ўсё абыдзецца... У дарослых гэта — інфаркт.

Бацька сеў на табурэтку, абхапіў рукамі галаву.

Маці плакала, седзячы побач са Змітрачком.

За акном, у дворы, падаў голас нечы сабака. Але яго голасу Змітрок не чуў. І добра, што не чуў.

Калі было за поўнач, бацька падышоў да вешалкі, зняў з кручка шапку. Пакруціў яе ў руках, падышоў да акна, расчыніў фортку і з усяе сілы шпурнуў у цемру, на вуліцу. І яшчэ доўга стаяў каля акна, курыў, думаючы пра нешта сваё і не ведаў, як вымаліць у сына дараванне...

Афішы буйнейшых кінатэатраў рэспублікі даволі часта зіхацяць назвалі гучных сусветных прэм'ер. Прыемна, што ў апошні час на нашых экранах з'яўляецца і шмат новых расійскіх стужак, якія, вядома ж, бліжэй нашаму гледачу, чым, скажам, тыя ж амерыканскія блокбастары.



І вось у пракат выходзіць новая расійская кінакарціна "Неба. Самалёт. Дзяўчына". Пастаноўку стужкі па шырокавядомай п'есе Эдварда Радзінскага "104 старонкі пра каханне" ажыццявіла рэжысёр Вера Старажова.

Кінакарціна з поспехам паказвалася на Міжнародным кінафестывале ў Венецыі восенню 2002 года. Адна з вядомых крытыкаў, Дэбора Янг, так выказалася пра стужку: "Фільм – маленькая пярлінка ў калекцыі Венецыянскага фестывалю. На першы погляд, гэта проста выдатна знятая і выкананая гісторыя кахання, але да фіналу мы ўжо разумеем, што карціна куды глыбей і значней, чым здаецца спачатку".

Акрамя Рэнаты Літвінавай у фільме здымаліся Дзмітрый Арлоў, Міхаіл Яфрэмаў, Інга Стралкова-Аболдзіна.

Пэўна не згубіцца ў рэпертуары і новая мастацкая кінастужка "Фанатка", створаная сумесна кінамайстрамі ЗША і Аўстраліі. Зняў яе аўстралійскі рэжысёр Джон Полсан.

Галоўны герой "Фанаткі" – студэнт элітнага каледжа, юны прыгажун Бен Кролін. У яго ёсць усё, аб чым можна марыць. Яму лёгка даецца вучоба, ён лепшы плывец каманды, яго кахае Эймі – самая класная з дзяўчат, якіх ён калінебудзь ведаў. Але жыццё куміра не заўсёды такое бязвоблачнае, як прынята лічыць...

У галоўных ралях заняты Джэсі Брэдфар, Эрыка Крысценсен, Шыры Эплбі і інш.

І, нарэшце, яшчэ адна даволі адметная і яркая прэм'ера. Гэта сямейны амерыканскі фільм "Як Майк", пастаўлены вядомым рэжысёрам Джонам Шульцам.

У цэнтры падзей – лёс чатырнаццацігадовага юнака, што жыве ў прытулку для сірот. Клічуць хлопчыка Кельвін. Гэта самастойны, кемлівы тынэйджэр, які карыстаецца аўтарытэтам сярод сваіх аднагодкаў. Вельмі рухавы, непаседлівы Кельвін не дазваляе пасці духам сваім блізкім сябрам Мерфу і Рэг, якія марань, каб у іх былі бацькі. Але не выйшла гэтага і ў чарговы раз, у так званы бацькоўскі дзень...



Дык няўжо не здарыцца цуд?..

Карціна на рэдкасць смешная. У ёй шмат гумару. У галоўнай ролі Ліла Бау Вау – зоркі хіп-хопа.

У фільме таксама здымаліся Морыс Чэстнат, Джонатан Ліпнікі, Брэнда Сонг і іншыя.

*НА ЗДЫМКАХ: кадры з фільмаў "Неба. Самалёт. Дзяўчына", і "Як Майк".*

Аляксандр БОГДАН,
Канстанцін РАМАНОЎСКІ

ПРЭМ'ЕРА

# ГАРБАТА З ВЯРБЛЮДАМ



***Даўно не бачылі гледачы камедыйных герояў Георгія МАРЧУКА. І вось, нарэшце, прэм'ера трагіфарса "Гарбата з вярблюдам" у мінскім тэатры "Дзе-Я?" У аснове— арыгінальны, насычаны дыялогамі, смешнымі і непрадказальнымі сітуацыямі сюжэт пра тое, як жонка правучыла шалапутнага мужа***

Гумар і сатыра — характэрная рыса новай работы. Камедыя адлюстроўвае адвечны канфлікт духоўнага і матэрыяльнага, высмейвае недарэчныя праявы чалавечага характару, узнімае пытанні адказнасці перад Богам і людзьмі. Гэта не проста вадзвіль пра каханне, а сур'ёзнае даследаванне адвечных праблем, дзе знайшлося месца для гратэска, фарса, буфанады. Рэжысёры Тэатра-студыі кінаакцёра А. Бяспалы і В. Грыцэўскі надзвычай добра зарэкамендавалі сябе ў камедыйным дзеі. У цэнтры сцэны змешчана круглая тахта — ці то ложак, ці то манеж. Усё нібыта круціцца ў нейкім зачараваным коле і сысці з гэтага бессэнсоўнага вярчэння — вялікая праблема для кожнага героя. І для кіраўніка камерцыйнага банка Аўгуста (А. Гусеў), і для яго маладой палюбоўніцы Макрыды (Н. Капітонава), і для макрыдзінай сяброўкі Нюры (В. Сізова), і для былой жонкі Аўгуста Бажэны (Н. Анісімава). Актрысы Н. Капітонава і В. Сізова, якія адразу запаланяюць залу выканаўчым майстэрствам, падкрэсленай гратэскавасцю створаных характараў, дакладным веданнем псіхалогіі сучаснай публікі, прадстаўляюць бліскучы дуэт двух саперніц. Макрыда, упэўненая ў сваёй прывабнасці, упэўненая, што злавіла птушку шчасця, не ведае сумненняў. Сяброўка-Нюра, вядома, зайздросціць Макрыдзе, яна разбівае шчаслівы саюз апошняй з багатым палюбоўнікам. Бажэна намагаецца давесці банкіру, што Макрыда яго зусім не кахае, а з ім — толькі дзеля грошай, і, калі ёй трапіцца, якісьці прыгажун-шэйх, кіраўнік замежнай фірмы "Гарбата з вярблюдам", уладальнік нафты і газу, то дзяўчына адразу ж збяжыць з ім. Так і здараецца: дзякуючы хітрыкам, падману былой жонкі Аўгуста, усхва-



ДНІ КУЛЬТУРЫ АБЛАСЦЕЙ БЕЛАРУСІ Ў МІНСКУ

# ПААЗЕРСКІ КАРАГОД

***Урачыстае выступленне майстроў мастацтваў Віцебшчыны ў Палацы Рэспублікі прагучала завяршальным акордам Дзён культуры абласцей Беларусі ў Мінску***

УСПОМНІМ асноўныя этапы гэтага "творчага марафону", як назваў яго сам ініцыятар ідэі міністр культуры РБ Леанід Гуляка. У красавіку 2002 г. — "Гомельская вясна ў Мінску", канцэрт у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Эстафету падхапіла Гродзеншчына (май). Справаздачныя мерапрыемствы пад назвай "Край мой родны – Магілёўшчына" праходзілі ў кастрычніку. Сукведце талентаў Брэстчыны — "Зямлі Палескай галасы" — мінчукі віталі 13 снежня ў Беларускім дзяржаўным музычным тэатры. Міншчына ўручыла свой "творчы вянок" сталіцы таксама ў першы месяц зімы. Прыгаданыя мерапрыемствы — не толькі дэманстрацыя дасягненняў у галінах культуры і мастацтва за апошнія гады, увасабленне творчай адметнасці рэгіёнаў, але і своеасаблівая справаздача перад краінай і перад сабой, і стымул творчага спаборніцтва, і агляд прыярытэтаў у развіцці відаў і жанраў прафесійнага ды аматарскага мастацтва.

Святочны канцэрт майстроў мастацтваў і творчых калектываў Віцебскай вобласці пад назвай "Паазерскі карагод" быў арганізаваны паводле самых высокіх стандартаў. Аснову канцэрта складалі аматарскія мастацкія калектывы, якія амаль не саступалі сваім калегам —прафесійным артыстам у выканальніцкім майстэрстве.

Заўважу: хаця вялікая зала Палаца Рэспублікі змяшчае 2800 гледачоў, шматлікія прыхільнікі віцьблян не змаглі патрапіць на гэты канцэрт.

Атмасфера святочнай прыўзнятасці адчувалася і ў фае, і на другім паверсе, дзе разгарнулася выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Віцебскага краю. Рукатворнае саламянае, гліняное, ільняное, лазовае хараство і ствараў "прэлюдыю" да канцэрта.

Канцэрт пачаўся лазерным шоу з аб'ёмнымі відарысамі архітэктурных помнікаў Віцебска, танцуючых сілуэтаў. Праграму вялі артысты Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Фёдар Шмакаў, Святлана Акружная, Таццяна Ліхачова і Генадзь Шкуратаў. Пасля прывітання адказных асоб разгарнулася музычна-харэаграфічная кампазіцыя пад назвай "Зімовыя карункі": вакальна-харэаграфічны ансамбль "Зорка" культурна-дзелавога цэнтра ААТ "КІМ" Віцебска (кіраўнік Н. Чарнюк), народны ансамбль песні і музыкі "Крыніца" РДК Дуброўна (кір. М. Шлег), ансамбль народнай музыкі "Таўкачыкі" дзіцячай школы мастацтваў Полацка (кіраўнікі П. Казлоў, А. Малахоўская). Рэгіянальны каларыт у музыцы і спевах прадэманстравалі "Вясёлыя музыкі" з Сянно, прыпевачніцы з Гарадоцкага, Глыбоцкага і Лёзненскага раёнаў, ансамблі гарманістаў, дзіцячыя гурты. Фальклорную тэму працягнулі прафесійныя выканаўцы: ансамбль песні, музыкі і танца "Талака" Віцебскай абласной філармоніі



# ГРАЎ У СТАЛІЦЫ «КАНТРАДАНС»

***Нядаўна ў Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў з праграмай "Полацкі сшытак" выступіў гурт "Кантраданс" з Баранавічаў. У складзе гурта — чатыры вельмі прыемныя дзяўчыны: Наталля Бабкова, Валерыя Несцярук, Людміла Вядзенская і Таццяна Кашульская. Усе яны ў свой час атрымалі вышэйшую музычную адукацыю — сярод іх дзве піяністкі, харавік і гітарыстка. Гурт існуе ўжо больш як дзесяць гадоў і ўвесь гэты час актыўна ўдзельнічае ў канцэртах, сустрэчах і фестывалях. Не мінаюць дзяўчаты з "Кантраданса" і рыцарскія турніры: у апошні час пабывалі на такіх святах у Оршы, Полацку і Навагрудку. Таксама на іх рахунку некалькі дабрачынных канцэртаў, апошні з якіх адбыўся ў Аўстрыі, падчас вернісажа беларускіх мастакоў. Усе грошы, заробленыя там, перайшлі ў фонд інвалідаў горада Баранавічы, у рэабілітацыйны цэнтр.***



**У мінскай праграме "Кантраданса" прагучала шмат твораў XIV—XVII стст. (еўрапейскі Рэнесанс і Барока). Пераважалі творы са зборніка "Полацкі сшытак", але было некалькі і з "Віленскага сшытка". Самыя старажытныя творы, прадстаўленыя ў канцэрце, узяты са зборніка манаха Яна з Любліна.**

**Удзельніца гурта Наталля Бабкова:**

**— Мы даўно цікавіліся старажытнай музыкай, потым пачалі збіраць адпаведную літаратуру. Спачатку выконвалі заходнееўрапейскую музыку, а прыкладна з 1996 года ўпершыню пачалі граць творы беларускіх аўтараў. А зараз ужо спрабуем граць на старажытных інструментах сучасную музыку і спадзяёмся працаваць у гэтым напрамку і далей.**

**У час канцэрта на музыкантах гурта "Кантраданс" вельмі прыгожыя касцюмы: аксамітныя бардовыя кашулі, штаны і гэткія ж берэты, упрыгожаныя пер'ем. Напэўна, адзенне ў стылі X—XII стст.**

**— Гэтыя касцюмы мы пашылі самі. Самі зрабілі выкрайкі і прыдумалі матывы. Касцюмы ўпрыгожылі арнаментам і ручной вышыўкай бісерам, — дадае Валерыя Несцярук.**

**А выдатныя касцюмы былі не адзінай адметнасцю зоркавага вобраза канцэрта. Яшчэ перад яго пачаткам на сцэне змясцілі велізарны белы экран, на якім у час выступлення музыкаў змяняючы адно аднаго, з'яўляліся слайды-малюнкі. Беларускія мястэчкі і гістарычныя будынкі, замчышчы і палацы, цэрквы, касцёлы, абразы, — усе гэтыя помнікі старажытнай архітэктуры і мастацтва ўпрыгожвалі паказ музычнай праграмы.**

**Ва ўдзельніц гурта шмат планаў і задумак. Яны рыхтуюць новы рэпертуар, у хуткім часе паедуць з канцэртамі па Беларусі. Плануюць выпусціць кампакт-дыск "Полацкі і Віленскі сшыткі". Таму, як гаворыцца, творчых поспехаў і ўдзячных прыхільнікаў**

**Юлія ПАПОВА**



# РАНІШНІ ГОСЦЬ

Якраз тым часам, калі ён канчаткова дадумваў рэшту свайго жыцця, я, перабіраючы кніжкі ў лімаўскай бібліятэцы, натыкнуўся на тоненькі непрыкметны зборнічак вершаў паэткі Таццяны Дзмітрусёвай, і раптам прыпомніў тужліва-самотныя словы пра яе жыццё свайго былога калегі Валянціна Акудовіча: "Госпадзе, як адзінока і бязлюдна канала яна ў гэтым бесчалавечным мегаполісе"...

Я, на жаль, не ведаў гэтай паэткі асабіста, таму забраў тую кніжачку дахаты і вечарам *адкрыў яе...*

*"Паглядзі, — прасіла так,*
*Як не просіць ніхто ніколі. —*
*Паглядзі — перахрышчаны птах*
*Воляй вольнаю як няволяй".*
*"Ты разгледзь, —*
*Я прасіла зноў. —*
*Ты разгледзь незаўважныя путы.*
*Хоць і з тонкіх яны асноў,*
*Ды не меней ад іх пакуты".*
*"Азірніся!" — крычала ўсё,*
*Што ўва мне ад людзей, ад Бога.*
*Азірнуўся — і як абсёк.*
*Я прасіла глядзець... сляпога.*

І тады, закрыўшы вочы, пачаў я міжволі прыпамінаць тых паэтаў і літаратараў нашых, што рана альбо трагічна адышлі ад нас, а сёння ўжо амаль забытыя намі: *Генадзь Кляўко, Леанід Якубовіч, Уладзімір Лісіцын, Ігар Хадановіч, Хведар Чэрня, Артур Цяжкі, Сымон Блатун, Іосіф Скурко, Рыгор Семашкевіч, Тамара Чабан, Яўген Шабан, Ала Кабаковіч, Міхась Барэйша, Віктар Хаўратовіч, Міхась Рудкоўскі, Анатоль Грачанікаў, Іван Рубін, Марыя Гудкова, Іван Ласкоў, Мікола Федзюковіч, Андрэй Пяткевіч, Люба Шэлег, Віктар Стрыжак...*

І ўсё ніяк не мог прыпомніць у працяг гэтага жалобнага спісу таго хлопца з-пад Жабінкі, пра спадчыну якога так рупіўся яго зямляк і мой даўні таварыш Васіль Сахарчук. Заўтра, вырашыў я, з рэдакцыі патэлефаную Васілю і распытаю пра яго... Бо замыслівалася ў галаве ідэя завесці ў "ЛіМе" спецыяльную рубрыку, гэткі своеасаблівы *літаратурны памінальнік* усіх тых, вышэй мной згаданых...

Аднак назаўтра, прыйшоўшы на працу, я быў агаломшаны непамыснай весткай: трагічна скончыў сваё жыццё паэт Васіль Сахарчук...

І толькі праз колькі дзён, насілу *адвязаўшыся* ад фізічнага ўспрымання ягонай смерці, пачаў я начамі перабіраць свой ёмісты эпісталярый, шукаючы нашую перапіску з ім. Амаль паўсотні лістоў драбнюткага роўнага почырку ад пачатку і да канца 80-х гадоў мінулага веку... (Мая паездка на вучобу ў Маскву абарвала нашу пісьмовую повязь.) І хоць бачыцца з ім мы сталі часцей, аднак — "большое видится на расстоянье". *Вачыма душы не разгледзіш...*

28 сакавіка 1982 года Васіль пісаў, што *"бачыўся з Віктарам Шніпам ды Іванам Рубіным. Трохі пасядзелі ў Рыгора Семашкевіча. Там і заначавалі — у кабінеце. А назаўтра з цяжкімі галовамі разышліся. Праўда, Рубін яшчэ вечарам знік, ды так што не заўважылі. Нават не развітаўся"...*

А ўжо 20 верасня таго ж года: *"Атрымаў выдавецкую рэцэнзію на рукапіс. Праўда, за праўкі*



**Васіль САХАРЧУК**

**Мяне няма,**
**але я ёсць — адсутны**
**на час, які вядомы толькі мне.**
**Цяпер я пэўны:**
**ісціна і сутнасць —**
**у немаце, як некалі ў віне,**
**якое я любіў,**
**і ў тым прызнацца,**
**нібыта зноў вярнуцца**
**на зямлю.**
**Ды не хачу я на зямлю**
**вяртацца —**
**я слодыч іншую цяпер люблю.**
**Яна як і віно, але без хмелю,**
**глытка яе стае на сто вякоў,**
**хаця насуперак зямному**
**зеллю,**
**яна не грэе, а халодзіць кроў.**
**А кроў мая — ужо не кроў,**
**а сокі**
**дрэў, зёлак, траў, каравае**
**зямлі,**
**бо наступіў мой поўдзень**
**найвысокі —**
**мой дух анёлы ў неба паднялі.**
**І я лячу над роднаю зямлёю,**
**над роднай хатай зоркаю**
**свячу**
**і разумею ўсіх, хто быў**
**са мною,**
**але да іх вяртацца не хачу.**
**І ты,**
**каханая,**
**не хмур чало,**
**казаў,**
**кажу**
**і паўтару нанова:**
**няма існей таго, што аджыло,**
**няма жывей таго,**
**што стала словам.**

# «НЕ ТУРБУЙЦЕСЯ ПРА МОЙ ЮБІЛЕЙ...»

Гэта ягоная, Васіля Сахарчука, фраза. Упершыню ён сказаў яе пасля майго юбілею, адчуўшы і межавую значнасць, і тлумную бязрадаснасць падзеі, што праз паўтара года чакала і яго. Пасля гэтую фразу паўтараў не раз, дадаўшы неяк, што пяцюдзесяццю юбілеі павінны заканчвацца, а не пачынацца... Ягонай іранічнасці я не надаваў асаблівага значэння, прынамсі — значэння ракавога, бо іронія ўсё-такі сродак самаахoвы. Дый паўтара года ва ўзросце, калі пачынаеш узважваць і ацэньваць кожны дзень, не такі і малы адрэзак часу. Але ён спяшаўся...

Свой узрост сябар называў узростам згадак і ўспамінаў. Аднак не пра "імгненні светлыя" з дзяцінства і юнацтва, настальгія па якіх скончылася, а пра абрывы-страты, што здараліся ў ягоным нядоўгім жыцці часта: блізкі сябар-юнак, малая дачка, старэйшы брат, бацька, маці, літаратурны настаўнік, і зноў сябар, і зноў... "І я, было, з абрыву ўніз, астатні страціўшы спадзеў..." Ім — усім, калі не памыляюся, — Васіль прысвяціў вершы; не па адным вершы, а нават паэмы. Паэт з датклівым сэрцам, роздумна-элегічны, ён ці не ад самага пачатку сваёй творчасці клаў у аснову вершаў і паэм (для перакладаў з балгарскай або рускай таксама браў паэтаў з драматычным лёсам) вобразы антанамічныя, конавыя — "лебедзяў белых, лебедзяў чорных", "занавешаных люстэрак", "звужанай прасторы", выбару паміж "лязом нажа і віном спагады".

*"Выбіраць віно ці нож? — скажы!" —*
*у мудрае змяі парады нема просіць,*
*але маўчыць змяя на конавай мяжы,*
*і кожны з ночы ў дзень*
*віно і нож выносіць.*

Апошнім часам ён толькі зрэдку, як зрэдку і пісаў, чытаў мне вершы. Абрыўкамі, строфамі, асобнымі радкамі: "Не застрашай мяне самотай, мы з ёю, быццам спарышы..." Пакуль не затушыў агеньчыкі-бліскаўкі самотнай душы ўласнай рукою, як нярэдка тушаць язычкі полымя яшчэ недагарэлай свечкі. Горкая, балючая і — пры ўсёй, здавалася б, відавочнасці — невытлумачальная страта!



Нехта сказаў, што не ад усясветнай тугі абрываюць свае жыцці паэты, маючы на ўвазе вельмі асабістыя іхнія матывы. Аднак жа матыў — гэта толькі штуршок да ўчынку, а глыбінная прычына — у "крыку сэрца" і "нямогласці розуму" перад ім (А. Камю). Яна і ёсць тая самая "ўсясветная туга", з якою цяжка жыць і якая ставіць нас перад выбарам. Гэты выбар неабавязкова мусіць быць трагічным — ды вось жа ён адбыўся, як і ў соцень, тысяч людзей дасюль, і з таго яшчэ большай робіцца таямніца быцця і небыцця. З таго яшчэ больш балюча.

Як часта мы недасведчаныя ці абыякавыя, памыляемся ў чалавеку! Бо мяркуем пра яго па вонкавых паводзінах і ўчынках, якія далёка не заўсёды з'яўляюцца адэкватнасцю ягонай душы. Асабліва, мусіць, душы паэтавай. На мяшчанскім узроўні, на ўзроўні славу-

*яшчэ сур'ёзна не браўся. Рэцэнзію пісала Л.Філімонава. Рыгор Семашкевіч, відаць, не паспеў, хоць і дамаўляліся з ім... Вельмі шкада, што такі чалавек пайшоў ад нас — назаўсёды. У прычынах цяпер не разбярэшся... Паслухай лепш верш яму прысвечаны.*

### НЯВЫСЛУХАНАЯ СПОВЕДЗЬ

*Я столькі часу страціў на пустое,*
*бяздумна жыць я болей не хачу.*
*Вярніце мне чуццё маё святое,*
*інačай я... у вырай палячу.*
*І, можа, не вярнуся больш ніколі*
*да гэтых сумных, райскіх берагоў,*
*дзе трацяць веру у дабро і волю,*
*палоняць нашы душы без акоў.*
*Від гучных слоў і вабіць, і ўсыпляе*
*на межах веры, праўды і маны...*
*Ды толькі ў гэтым, браце мой, я знаю*
*няма ні кроплі нашае віны.*
*Нашчадкі прыйдуць — разбяруцца самі,*
*як жыць ім, думаць, марыць і тварыць.*
*Нас не асудзяць — мы былі з вусамі,*
*але ваду збан носіць да пары.*
*Дык выбачай ты мне за доўгі вырай,*
*не забывай, што думаў я і жыў,*
*і зразумеў нарэшце сэрцам шчырым:*
*лягчэй на скразняку, чым на мяжы...*

Гэта, як бы ад яго імя..."

А вось і тое, прызабытае мной, імя трагічна сышоўшага яго сябра і паэта; у лісце ад 14 ліпеня 1986 года Сахарчук пісаў: *"Я тут паэта адкрыў — працуе рабочым у саўгасе — піша па-беларуску. І няблага. Нечым да цябе падобны. Клічуць яго Васіль Гадулька. Харошы хлопец. І да ўсяго добра нямецкую мову ведае. А гэта ўжо перспектыва і для перакладчыцкай работы... Трэба будзе з яго вершамі на "Маладосць" ці "ЛіМ" выйсці"...*

Балюча ўсё гэта, хоць і даўняе. Нібыта сваё.

Таму без лішніх слоў, працытую наастатку два радкі з паэмы Васіля Сахарчука "РАЗВІТАННЕ", прысвечанай памяці Васіля Гадулькі. Мне здаецца, што тут сказана дастаткова, каб зразумець іх абодвух.

*Мяне няма,*
*але я ёсць — адсутны*
*на час, які вядомы толькі мне.*

І яшчэ. Мабыць, напрыканцы трэба патлумачыць назоў гэтага свайго тэксту. "РАНІШНІ ГОСЦЬ" — апошняя прыжыццёвая кніжка Васіля. Цяпер ён ДОМА.

*Не кажу: пухам яму зямля, бо — Паэты на ёй не затрымліваюцца. Яны — вышэй...*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# ВАСІЛЁК

На ўсіх здымках, што захаваліся ў маім сціплым архіве з гадоў студэнцтва, — у яго не сумны, хутчэй няўсмешлівы, засяроджана-думны пагляд. Зарагатаць ні з таго ні з сяго, знянацку, як і ўпотайкі, хаваючыся ад строгага выкладчыка, здушыцца смехам на занятках з недарэчнасці або пікантнай сітуацыі — такім не помню Сахарчука. Ужо тады, падчас вучобы, ён вылучаўся сур'ёзным стаўленнем да маральных аспектаў быцця, глыбіннаю, а па сённяшніх днях, дык, пэўна, і фантастычнаю датклівасцю душы. Мы і звалі яго, пакепліваючы, адпаведна — Васілёк, і імя тое часам крыўдзіла яго.

Такое жыццё: перадаверыўшы існасць сваю юнацкую, першародную памяці гэткіх жа, як самі, небажатаў, шыбуем у свет выконваць наканаваныя лёсам ролі. І добра, калі зноў перакрыжуюцца шляхі-дарогі, і абудзяць яе, тую памяць, і зробяць надзейным апірышчам у пошуках сябе.

Мы з Васілём спаткаліся ўпершыню пасля універсітэта год пятнаццаць таму. Ён ужо быў даволі рэспектабельны, меў кніжку, я — на подступах да таго і другога. Не ведаю, хто больш чакаў той сустрэчы, але яна падалася мне занадта стрыманай. Час паказаў — дарэмна.

Ён вельмі часта званіў. Разбаўляючы маналог выклічнікамі і характэрнымі для яго роднай Бярозаўшчыны часціцамі –са замест -ся ў дзеясловах, па паўгадзіны, а то і больш апавядаў пра чарговы верш ці амаль упалянага напярэдадні дзіка. Папраўдзе, доўгія тыя размовы часам і стамлялі, але заўсёды, нават стоячы адною нагою ў калідоры, другою — на пляцоўцы, слухаў цярпліва: усведамленне, што, можа, бліжэйшага нікога на гэты момант і няма, рабіла часовую нязручнасць дробязнай і неістотнай.

Апошні раз ён пазваніў за пару тыдняў да свайго зыходу. Згадваў пакуты ад хаджэння па ўстановах падчас збірання тыражу новай кніжкі,хваліў дзяцей. Як ніколі быў лаканічны, нейкі ўтрапёна-разважлівы. Упершыню за многія гады дазволіў сабе раптам прыдачыніць дзверыну ў жыццёва-побытавае сябе сённяшняга, без колькіх месяцаў пяцідзесяцігадовага. "Так, цяжкаваты маю характар", — пагадзіўся без крыўды ў голасе і паклаў слухаўку. Пра тое, што і развітаўся, — дайшло пазней, калі аналізаваў сам-насам размову, атрымаўшы горкую навіну. Развітаўся шчодра і, трэба аддаць належнае, — абсалютна спакойна.

Ягоныя званкі амаль заўсёды выклікалі ўва мне асацыяцыі з гадамі студэнцтва. І не толькі, відаць, таму, што ўпобачкі пражылі чатыры гады ў адным інтэрнацкім пакоі. Як быццам сёння тое было, памятаю першы прыход іх з Федзем Ляшкевічам да мяне "на сяло" на Басіялаўскую, дзе жыў першакурснікам да атрымання месца ў інтэрнаце. "І ты ж да нас прыходзь, абавязкова, Франц, глядзі!" Так нагадала гэта тады немудрагелістаю шчырасцю радзіннае мёрскае "Вы ж глядзіце, ісці будзеце калі ля нас, абавязкова зайдзіцеся, не абмініце!" і так важна было для адарванага ўпершыню ад бацькоўскай хаты ды аглушанага патокамі вучонае прамудрасці вясковага хлапчука. Тады ж адкрылася для мяне і найлепшае ў Васілёвым характары: няздольнасць пакрыўдзіць чалавека, прыстойнасць, надзейнасць у сяброўстве, якое ніколі ён, у адрозненне ад многіх, не праявраў змушэннем да подлага ўчынку ў яго нібыта вялікасці сяброўства, імя.

Напэўна, можна сцвярджаць, што сферы, дзе варыцца літаратурная і калялітаратурная палітыка, дзе жук і жаба, і чорт, і баба ведаюць лепш за самога пісьменніка, пра што і як яму пісаць, яго не вельмі займалі. Згукі родных мясцін, зямлі, што надзяліла талентам і паклікала да сябе ў росквіце сіл, прываблівалі яго куды больш. Хоць, безумоўна, абыякавым да ўсяго таго негатыўнага, што і душу менш далікатнага, чым ён, чалавека, квеліць і точыць, ніколі не быў.

Самазабойства, у адрозненне ад смерці натуральнай, апроч асацыяцыі пра звон, што звоніць нібыта і па табе, заўсёды выклікае пытанне — чаму? Найбольш зразумела — калі хвароба. Ужо менш — калі стома. Зусім непрымальна — калі азарт... Але ж гэта жывых меркаванне.

*Як трэба жыць на свеце?*
*Бязгрэшна, быццам дзеці.*

Гэта — Васілёк з першага свайго зборніка "Даніна". А судзіць нас — толькі Бог будзе.

**Франц СІЎКО**



тага "цвярозага розуму" — усё проста: ці то сямейныя нелады, ці то цяжкі стан здароўя, ці то яшчэ працей — піў. З радасці, з сытасці рабіў апошняе? Той, хто гэтак пачувае сябе, не вешаецца. Спявае песні, часам сваволіць, але — не накладае на сябе рукі. "Шчаслівыя вершаў не пішуць", — цытую сябра.

Цытую — і згадваю М. Лермантава: "Он меж людьми ни раб, ни властелин, и все, что чувствует, он чувствует один". Васіль любіў гэтыя радкі, некалі пачутыя з маіх вуснаў, і, на вялікі жаль, не даваў мне наблізіцца да таго, што ён глыбока адчуваў сам. Цяпер магу наблізіцца толькі ўчытваючыся ў ягоныя вершы зноў, па-новаму, пасля таго, што непапраўна адбылося.

*Вуж нарадзіў сябе наноў*
*і галаву схіліў панура...*
*...Чытач, ты часам не знайшоў*
*маю шчыгрынавую скуру?*

Даўно знаходзім і знаходзіць будзем, бо ведаем, з якой натуральнасцю, шчырасцю, з усё большай удумлівасцю і адказнасцю Васіль Сахарчук ствараў таленавітыя радкі. "Як вуж ад скуры, і паэт так вызваляецца ад вершаў". Гэта ён сказаў і пра сябе самога.

Па-асабліваму будзем спрычыняцца да ягонай такой багатай, ранімай і высокай душы 10 ліпеня гэтага года, у дзень юбілею, якога ён так рашуча сцураўся 26 студзеня, пакінуўшы на лісціку з нататніка апошні свой радок: *"Я ўсіх вас люблю".*

**Алесь КАСКО**



**Васіль САХАРЧУК**

## БЯСЧАССЕ

*Няпраўда,*
*што сваіх урокаў двойчы*
*гісторыя не любіць паўтараць,*
*таму й не менее чарга ахвочых*
*яе за паўтарэнні дакараць.*

*Бясчассе нараджае безнадзею,*
*іронію, няверу і сумнеў,*
*бы жне ўраджай,*
*які ніхто не сеяў,*
*і падсвядома спеліць злосць і гнеў.*

*Хоць знаю,*
*што было,*
*не ведаю, што будзе,*
*і на крамоле сам сябе лаўлю:*
*Хрыста паўторна ўкрыжавалі*
*б людзі,*
*калі б ён зноў вярнуўся на зямлю.*

## ВЫГНАННІК

Яшчэ я, горкіх слоў пляцень,
выгнанніка хімерны цень.
**Поль ВЕРЛЕН**

*Мужчына з сумнымі вачыма*
*і з сівізною ў барадзе*
*з пустою торбай за плячыма*
*па лютым холадзе брыдзе.*

*Куды, адкуль, з якою мэтай,*
*вядома Богу аднаму,*
*ды, відавочна, знаць пра гэта*
*не вельмі рупіць і яму.*

*Схаваў глыбока, бы за краты,*
*ён думкі грэшныя свае,*
*але што моцна вінаваты,*
*усёй паставай выдае.*

*Другі свой боль*
*на пацяруху*
*віном расцёр бы ўжо*
*даўно,*
*а гэты не заліў ім скруху,*
*бо не пайшло яму віно.*

*Таму панура спіну згорбіў,*
*мільгом прыгладзіў*
*сівізну,*
*зняў са сцяны пустую*
*торбу*
*і ўклаў туды сваю віну.*

*Закінуў горкі груз*
*за плечы*
*і ў замець з цяжкаю душой*
*з паклажай гэтай недарэчнай*
*насупраць ночы прэч сышоў.*

*Я чую, што скрыўдзіў ён бязмежна*
*матулю хворую сваю...*
*О, Божа мой! У тлуме снежным*
*у ім сябе я пазнаю...*

•

СЯСТРЫ ВАЛІ

*Не застрашай мяне самотай,*
*мы з ёю, быццам спарышы.*
*Нібы каханка, яна ўпотай*
*даўно жыве ў маёй душы.*
*Я гэтак звыкся, зжыўся з ёю,*
*што нават думкі аднае*
*стае парою, каб з сабою*
*ў размір'е ўпасці без яе.*
*За ейным ценем неадступна*
*іду маўкліва след у след*
*і горкі сум, бы крыж пакутны,*
*нясу цярпліва ў белы свет.*

## СУСТРЭЧА НА ВУЛІЦЫ

*На вуліцы сустрэлася жанчына*
*з пажоўклым, як апельсін, тварам*
*і гэткімі ж апельсінавымі рукамі.*

*Стала вусцішна на душы,*
*і я міжволі кіўнуў ёй,*
*але яна не адказала*
*на прывітанне.*

*Праз хвіліну я азірнуўся,*
*каб спачувальна паглядзець*
*ёй услед,*
*аднак, на вуліцы ўжо нікога*
*не было.*

*Прыйшоў дахаты*
*і расказаў пра гэтую сустрэчу*
*сваёй дачушцы.*

*— Напэўна, гэткі ж твар*
*і ў Смерці? —*
*уражаная, запыталася яна.*
*— Не ведаю... — адказаў я*
*і дасюль*
*не магу пазбыцца думкі:*
*"А можа, гэта яна і была?.."*

## ПУПАВІНА

*Двойчы*
*перарываецца пупавіна:*
*ва ўлонні,*
*каб выбавіць цела*
*для калыскі жыцця*
*і схаваць*
*у яго абалонцы*
*душу,*
*пасля — на покуці,*
*каб вызваліць яе,*
*а цела пакінуць*
*у калысцы дамавіны.*

## СЛЯДЫ

*Ад усяго,*
*што ёсць на свеце,*
*застаюцца сляды,*
*але іх*
*забывае час,*
*губляе прастора...*

*Твае сляды*
*На рачным пяску*
*змывае вада,*
*мае*
*сушыць сонца,*
*завейвае вецер...*

## ЗА СЯМЮ ПЯЧАТКАМІ

*З затоенай хіжасцю звера*
*яны раўнавалі адно другога*
*да ўсіх,*
*з кім не дзялілі*
*сваіх пачуццяў,*
*адпрэчаныя ад людзей*
*сцяною ўласнае таямніцы.*

*За прыязнымі ўсмешкамі,*
*бы за сямю пячаткамі,*
*яны хавалі сваю неспатолю*
*і нават не падазравалі,*
*што яна набліжае*
*іх разрыў:*
*яны ўжо нікому не належалі,*
*бо не належалі сабе.*

*І калі разрыў адбыўся,*
*адкрылася:*
*пра гэта не ведалі*
*толькі яны.*

## СУМНА...

*"Як сумна,*
*калі паміраюць людзі..." —*
*думаю я, чытаючы спачуванні.*

*"Як сумна..." —*
*падумае нехта,*
*калі памру я...*

## ТРАГЕДЫЯ ЯГО ЖЫЦЦЯ БЫЛА І ТРАГЕДЫЯЙ ЯГО ТВОРЧАСЦІ

11 сакавіка спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння Тодара Кляшторнага (1903—1937), беларускага паэта і перакладчыка. Нарадзіўся ён у в. Парэчча на Лепельшчыне. Вучыўся на рабфаку ў Оршы. Закончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Працаваў у рэспубліканскіх газетах і часопісах, на радыё. Удзельнічаў у рабоце літаратурных арганізацый "Маладняк" і "Узвышша". Быў арыштаваны ўвосень 1936 года. У 1937 годзе, 29 кастрычніка, быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання, а на наступны дзень — расстраляны.

Тодар Кляшторны выдаў некалькі зборнікаў вершаў: "Кляновыя завеі" (1927), "Светацені" (1928), "Ветразі" (1929), "Праз шторм на штурм" (1934), паэму "Палі загаманілі" (1930) і кнігу для дзяцей "Пра зайца, ваўка і мядзведзя" (1935). У 1960 годзе была выдадзена кніга паэзіі Т. Кляшторнага "Залатое вязьмо", а ў 1970 годзе — яго выбраныя творы.

Т. Кляшторны пераклаў на беларускую мову раман Ф. Панфёрава "Брускі" (разам з М. Багуном), творы У. Маякоўскага, М. Асеева і іншых рускіх пісьменнікаў.

Паэзію Т. Кляшторнага вызначаюць непаўторны вобразны свет, багацце асацыяцый, народнапесенная інтанацыя твораў. Трагедыя яго жыцця была і трагедыяй яго творчасці, раптоўна спыненай у 1930-я гады ХХ ст.

С. Я.

## ШЛЯХАМІ ДАЎНІХ ВАНДРАВАННЯЎ

20 лютага ў філіяле літаратурнага музея М. Багдановіча "Беларуская хатка" адбылася сустрэча з аўтарам кнігі "Шляхамі даўніх вандраванняў" Сяргеем Гараніным. Сябры аднайменнага клуба "Беларуская хатка" змаглі спазнаць нязведаныя таямніцы мінуўшчыны, даведацца не толькі пра першых паломнікаў-беларусаў, да гэтага часу не вельмі вядомых шырокаму колу чытачоў, сярэднявечных вандроўкі ў далёкія землі і пра тыя пісьмовыя нататкі, якія сталі сёння помнікамі старажытнай вандроўнай літаратуры, а таксама пачуць цікавыя гістарычныя звесткі.

Таццяна ДУБОЎСКАЯ, аспірантка БДУ культуры

## «РЫМСКІ ТРЫПЦІХ» ЯНА ПАЎЛА ІІ

У кракаўскім выдавецтве св.Станіслава выдадзена паэма Яна Паўла ІІ "Рымскі трыпціх". Гэта першы паэтычны твор, напісаны Святым Айцом у часе яго пантыфікату.

"Трыпціх" змяшчаецца на 14 старонках камп'ютэрнага набору, складаецца з трох паэтычных твораў, кожны з якіх напісаны ў сваёй адметнай стылістыцы. Паэма мае падзагаловак "Медытацыі Яна Паўла ІІ". Як зазначае вядомы польскі паэт і публіцыст Марэк Скварніцкі, мова і стыль гэтага твора нагадваюць ранейшыя вершы Караля Вайтылы. Па просьбе Папы М.Скварніцкі напісаў пасляслоўе да "Рымскага трыпціха".

Новая паэма Папы Яна Паўла ІІ рыхтуецца да выдання на беларускай мове ў выдавецтве "Про Хрысто".

Л.Г.

КНІГІ

# З СОТНІ – ТРОЕ НАШЫХ!

*Гады тры таму ў газеце "Книжное обозрение" была змешчана рэцэнзія «Шесть наших из сотни» на кнігу «100 писателей ХХ века». Кніга тая была перакладзена з нямецкай мовы, і рэцэнзент дужа крыўдаваў, што пададзены ў ёй былі толькі шэсць біяграфічных партрэтаў рускамоўных пісьменнікаў – Булгакава, Горкага, Маякоўскага, Набокава, Пастэрнака і Салжаніцына. Але ж гэта справа і воля складальнікаў – каго ўключаць у зборнік. Таму цалкам натуральна, што нямецкія складальнікі аддавалі перавагу нямецкамоўным творцам. Нямеччыну ў той кнізе прэзентавалі чатырнаццаць імёнаў, Аўстрыю – адзінаццаць, Швейцарыю — чатыры...*




Аднак гутарка пойдзе пра падобную, але разам з тым і зусім іншую кнігу. Называецца яна «Великие писатели ХХ века», і выйшла сёлета ў маскоўскім выдавецтве "Мартин" у шматтомнай і беспройгрышнай серыі "Великие ХХ века", у межах якой выходзяць як «бульварныя» («Катастрофы», «Скандалы», «Преступления», «Мистические тайны», «Тайны НЛО»), так і «высакалобыя» («Ученые», «Правители», «Художники», «Мыслители», «Музыканты») тамы.

Складальнікам яе, аўтарам прадмовы, шэрагу артыкулаў, пасляслоўя, а таксама "Кароткага слоўніка літаратуразнаўчых тэрмінаў і паняццяў" выступіў драматург, празаік і літаратуразнаўца Пятро Васючэнка. Ён жа здолеў сабраць больш чым пачэсную кагорту аўтараў сотні біябібліяграфічных артыкулаў. Сярод іх – дацэнты і прафесары некалькіх вышэйшых навучальных устаноў Мінска, спецыялісты, якія не толькі маюць тэарэтычны досвед у той ці іншай літаратуры, але й выкладаюць адпаведныя прадметы, узначальваюць кафедры. Да прыкладу, Пятро Васючэнка загадвае кафедрай беларускай мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, агульнапрызнаны амерыканіст Юры Стулаў загадвае там жа кафедрай замежнай літаратуры, паланістка Галіна Тычка з'яўляецца дацэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а Ірына Шаблоўская, якая спецыялізуецца па чэшскай літаратуры, доўгі час узначальвала кафедру замежнай літаратуры ў Белдзяржуніверсітэце. І справа тут не ў тытулах – проста мінуўся той нядаўні час, калі падобную кнігу мог скласці дылетант або проста штатны супрацоўнік выдавецтва.

І калі ўжо вяртацца да арыфметыкі, дык у "залатую" сотню гігантаў сучаснай літаратуры, літаратуры, – ад Абэ Коба да Шоў Джорджа Бернарда -- уключана цэлых тры (загадзя крыўду расійскага рэцэнзента!) персаналіі беларускіх пісьменнікаў! Гэта Янка Купала, Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч. Чаму менавіта яны, а не, скажам, класічнае сузор'е – Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч – зноў жа пытанне да складальніка, які палічыў, што менавіта ягоная "тройца" найлепш рэпрэзентуе беларускую літаратуру мінулага стагоддзя. Хаця ізноў жа, не толькі мінулага. Дзякуючы строгаму храналагічнаму прынцыпу – а ў зборнік уключаны асобы, якія пражылі ў ХХ стагоддзі хаця б адзін дзень – атрымліваецца, што ў пэўнай ступені ахоплена і літаратура ХІХ стагоддзя. Большая частка зямнога жыцця і асноўныя творы Жуля Верна, Эміля Заля, Генрыка Ібсена, Льва Талстога, Антона Чэхава, Оскара Уайльда належаць дзевятнаццатаму стагоддзю, але іх уплыў на літаратурны працэс наступнага стагоддзя быў настолькі магутны, што такое ўключэнне выглядае заканамерным і мэтазгодным. З другога боку, разглядаецца ў кнізе і творчасць майстроў, якія жывуць, а некаторыя працягваюць і плённа працаваць у нашыя дні. Гэта Чынгіз Айтматаў, Васіль Быкаў, Чэслаў Мілаш, Аляксандр Салжаніцын... А гэта значыць, што закранута і ХХІ стагоддзе.

Згадаем тут даўнюю крыўду расійскага рэцэнзента і супакоім яго – рускіх пісьменнікаў пададзена тут не шэсць, як у перакладзеным з нямецкай мовы выданні, а ўтрая болей. Дзеля справядлівасці адзначым аднак, што Іосіф Бродскі і Уладзімір Набокаў належаць не толькі рускай, але і амерыканскай літаратуры, бо пісалі па-руску і па-англійску, а апошні яшчэ і па-французску! А ўвогуле з вызначэннямі ў прыналежнасці да той ці іншай літаратуры нярэдка ўзнікаюць пэўныя складанасці, а то й парадоксы. Да прыкладу, ірландскі драматург Самюэль Бекет пісаў на французскай і на англійскай мовах, аўстрыйскі і чэшскі празаік Франц Кафка пісаў на нямецкай мове, а літаратурныя творы тытана індыйскай культуры Рабіндраната Тагора ствараліся на бенгальскай і англійскай мовах.

Верагодна, што была ў складальніка немалая спакуса прысвяціць кнігу нобелеўскім лаўрэатам у галіне літаратуры: колькі лаўрэатаў – столькі і вялікіх пісьменнікаў, ад Армана Сюлі-Прудома да Гюнтэра Граса! Аднак агульнавядома, наколькі суб'ектыўнымі бывалі сябры нобелеўскага камітэта! Нярэдка прэміі ўручаліся з кан'юнктурных меркаванняў, часам на рашэнні шведскіх акадэмікаў уплывалі палітычныя сімпатыі. Не дачакаліся Нобелеўскай прэміі такія мэтры як Франц Кафка, Астрыд Ліндгрэн, Джэймс Джойс, Марсэль Пруст, Станіслаў Пшыбышэўскі, аднак іх персаналіі ўключаны ў кнігу. У сваім выбары, як дэкларуецца ў прадмове і анатацыі, аўтары і складальнік кіраваліся магутнасцю таленту, уплывам напісанага ім на сусветны літаратурны працэс, усеагульным прызнаннем і грандыёзнасцю створанага мастацкага свету.

ШЛЯХІ

# «КОЖНЫ З НАС ПРЫПАСАЕ РАДЗІМЫ КУТОЧАК...»

***Гэтыя радкі з аднайменнага верша вядомага беларускага паэта Пімена Панчанкі ўзгадаліся мне сёлетняй зімой, калі я па даўняй, яшчэ з маленства, звычцы наведаў родныя мясціны, край майго маленства — гарадок, дакладней гарадскі пасёлак Хоцімск, што знаходзіцца на самым усходзе Беларусі, недалёка ад мяжы з Расіяй. Воляй лёсу зараз ён стаў прыгранічным...***

"Мяняе час былыя звычкі..." (зноў жа з верша П. Панчанкі) — ідзе час, мяняюцца і людзі, і гарадкі, і паселішчы. Мяняе і вельмі істотна змяніў сваё аблічча і мой родны Хоцімск, адзін з тысячы падобных раённых цэнтраў Беларусі.

Зараз у цэнтры гарадка велічна ўзвышаецца выдатна адноўлены Свята-Троіцкі храм, настаяцелю якога архімандрыту Кірылу ў мінулым годзе "прысуджана прэмія "За духоўнае адраджэнне". Насупраць храма добраўпарадкаваны парк з гульнявымі пляцоўкамі і атракцыёнамі для дзяцей, танцавальнай пляцоўкай і дыскатэкай для моладзі. Ёсць дзе правесці вольны час, асабліва ўлетку, і малым, і дарослым хацімчанам.

Ушанаванне тых, хто дбаў, або дбае сёння пра стварэнне і захаванне помнікаў матэрыяльнай культуры — святы абавязак як мясцовых улад, так і ўсіх жыхароў і Хоцімска, і раёна. Сведчаннем такіх адносін з'яўляецца, да прыкладу, памятная дошка пры ўваходзе ў парк, на якой выпісаны імёны і прозвішчы тых, хто паспрыяў стварэнню як самога парку на месцы некалі занядбанага сквера, так і адмысловых для райцэнтра атракцыёнаў. Усё гэта навідавоку, глядзіцца добра і, прызнаюся, усцешвае.

Але, пазіраючы на згаданае, падумалася і пра іншае, што не навідавоку, не звонку, а глыбей — у душы, у сэрцы, у людской памяці. Памяць жа людская — адбітак нашай людскасці, нашай грамадзянскай і нацыянальнай самасвядомасці, нашай годнасці. Толькі ці захавалася яна, ці захоўваецца належным чынам? Мушу тут гаварыць пра духоўную памяць, якая вельмі цесна звязана з духоўнасцю самой па сабе і яшчэ з духоўнай культурай. А разам з тым і з культурай матэрыяльнай, пра што пісаў вышэй.

У сувязі з гэтым стаўлю пытанне: "Хто з хацямчан, жыхароў раёна памятае, хто добра ведае і дзе напамін пра тое, што менавіта з Хоцімскам вялікім, а не малым звязаны жыццёвы і творчы шлях выдатнага творцы, народнага паэта Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі (двойчы) яшчэ былога СССР Аркадзя Аляксандравіча Куляшова?" Шмат разоў бываў ён тут, тут жылі яго бацькі, якіх ён наведваў амаль штогод: да гэтага часу стаіць дом, у якім сустракаўся з бацькамі. Бываў А. Куляшоў у самім Хоцімску, ездзіў у раён (у тое ж Трасціно), блукаў па наваколлях. Менавіта дзякуючы А. Куляшову ў беларускай літаратуры назаўсёды прапісаны і станцыя Камунары, што адна служыць аж на тры раёны, і рэчка Бесядзь. Ціхая, павольная, пакручастая, яшчэ і крынічна чыстая дзе-нідзе, яна здаўна злучае Расію і Беларусь. Дай Бог, каб не перасохла. У літаратуры па краязнаўстве, у іншых выданнях, у балеце, створаным дачкой паэта Валянцінай Куляшовай, прысвечаным А. Куляшову, можна, канечне, прачытаць пра згаданыя факты біяграфіі знакамітага паэта, але мала хто зараз чытае беларускую літаратуру, тым больш такога кшталту.

Пры гэтым відавочна і памкненне пазбавіцца снабісцкіх комплексаў і надаць увагу не толькі "сур'ёзным", элітарным аўтарам, але і літаратарам, якія працавалі ў жанрах фантастыкі, прыгодаў, дэтэктыва, дзіцячай літаратуры.

Дзеля зручнасці карыстання – а выданне гэтае можа служыць кнігаю для чытання, даведнікам і нават вучэбным дапаможнікам – аўтары мусілі жорстка структураваць біяграфічныя артыкулы. На пачатку кожнага з іх, як ужо было адзначана, падаецца поўнае імя пісьменніка, а калі ёсць, то і псеўданім, даты жыцця, называецца краіна або краіны, якія ён рэпрэзентуе, мовы, на якіх піша (калі іх некалькі), а таксама творчае амплуа (напрыклад, драматург, празаік, літаратурны крытык).

Далей ідуць наступныя раздзелы:

"Цытата" – выразная вытрымка з твора пісьменніка, якая дае ўяўленне пра ягоную манеру, стыль, творчае крэда або светаўспрыманне.

"Асноўныя этапы жыцця" – храналагічнае апісанне самых значных падзей з біяграфіі літаратара.

"Асоба і яе свет" – кароткі творчы партрэт аўтара.

"Асноўныя творы" – пералік самых значных прац і твораў.

Вельмі цікавым дадаткам да гэтых артыкулаў ёсць укладка з амаль паўсотняю фотапартрэтаў майстроў пяра. Адны з іх – класічныя, хрэстаматыйныя, пазнавальныя, як Уладзімір Маякоўскі, увасоблены майстрам фотамастацтва Аляксандрам Родчанкам, другія – амаль што дагерытыпы, з выразным адбіткам даўніны, як парадныя або пастановачныя партрэты Герберта Уэлса ці Марка Твэна, трэція – сюжэтныя, а таму нечаканыя, як партрэты Уільяма Фолкнера ці Эрыха Марыя Рэмарка.

Завяршаюць гэтае выданне патрэбныя, карысныя, але хутчэй службовыя дадаткі – "Кароткі слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў і паняццяў" двух дзесяткаў артыкулаў, а таксама бібліяграфія, куды ўключаны хіба што самыя грунтоўныя і салідныя, а нярэдка і шматтомныя рускамоўныя і англамоўныя манаграфіі ды энцыклапедыі.

Патрэбным жа і карысным будзе гэтае выданне сапраўды шырокаму колу чытачоў і, калі ўжыць модную цяпер камп'ютэрную тэрміналогію, карыстальнікаў. Ад школьнікаў-старшакласнікаў, студэнтаў і абітурыентаў да інтэлектуалаў, якія цікавяцца прыгожым пісьменствам, ад бацькоў і настаўнікаў, якія імкнуцца прывіць дзецям любоў да чытання, да літаратурных гурмэ, якія папаўняюць сваю эрудыцыю.

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ**

Мяркую, што трэба напомніць жыхарам раёна, самога раённага цэнтра, хто быў і застаўся іх слынным земляком, што імя А. Куляшова застаецца шырока вядомым і за межамі Беларусі і Расіі, што і сёння ён з імі, з намі праз свае бессмяротныя творы. Такім напамінкам, думаю, можа стаць памятная дошка, ці памятны знак, устаноўлены ў г.п. Хоцімску, накшталт тых, што нядаўна ўрачыста адкрыты ў гонар 120-годдзя Я. Купалы і Я. Коласа ў г. Горкі, на той жа Магілёўшчыне.

Будуць праходзіць гады і дзесяцігоддзі, будуць мяняцца кіраўнікі раёна, але імя паэта і створанае ім застанецца на вякі.

Спадзяюся, што мая прапанова будзе прынята, бо падзеі, звязаныя з імем А. Куляшова, прыспешваюць выкананне задуманага. У бягучым годзе (у лютым) споўнілася 25 гадоў з дня смерці паэта, а праз год — у 2004 годзе будзе 90 гадоў з дня яго нараджэння. Нядрэнна было б прыспець да гэтага часу.

Калі здзейсніцца прапанаванае і задуманае, то загаловак гэтага допісу можна лагічна завяршыць, як і напісана ў П. Панчанкі:

*Кожны з нас прыпасае Радзімы*
*куток,*
*Каб да старасці чэрпаць*
*адтуль успаміны.*

Будуць людзі бачыць напамін, будуць ведаць, будуць у іх успаміны.

**Віталь МАСЛОЎСКІ,**
**выкладчык універсітэта г. Прэшава (Славакія), ураджэнец г.п. Хоцімска**

# ПАМЕРЛА МАРЫЯ ФІЛІПОВІЧ

***...Вярнулася з работу дадому вечарам. У парозе, як толькі зачыніла за сабою дзверы, як і заўжды, шчаслівым шчэбетам і абдымкамі-пацапункамі стрэлі яе ўцешныя ўнук з унучкаю. Тут жа патрабуючы пакружыць іх на руках... Звыкла, не заходзячы яшчэ ў свой пакой, пагаманіла з дачкою і сынам пра іх дзённы клопат. На запытанне пра вячэру — адмовілася. Не хацелася...***

***Неўзабаве выйшла са свайго пакою і на кухні накапала сабе сардэчных кропель...***

***Дачка зайшла да яе ў пакой праз паўгадзіны.***

***Яе ўжо не было.***

***Смерць праведніцы.***



У беларускай прозе імя Марыі Філіповіч не ззяла асляпляльнай зоркай і не паўтаралася навыперадкі ў друку крытыкамі. Упершыню нягучна, сціпла ўзышло яно на старонках "ЛіМа" недзе яшчэ напрыканцы 70-х. І *прасіяла* роўным гаючым святлом. Святло гэтае брулася з глыбіні аддана спагадлівага сэрца і міжволі ўдзячна адгуквалася і ў сэрцы чытача.

"Чужая бяда"... Яна была расказана і перастворана маладым аўтарам так таленавіта, што сумнення не было: у беларускую прозу прыходзіць новае папаўненне, забяспечанае не міззэрнай мітуслівай здольнасцю брынчаць танным пустаслоўем, а надзейным вопытам уласнага існавання самой пісьменніцы.

...Па спецыяльнасці Марыя Філіповіч была медыкам. Пасля заканчэння медыцынскага вучылішча доўгі час працавала ўчастковым фельчарам. А гэтая работа — ніхто не запярэчыць! — патрабуе не толькі ведаў, але і вялікай чалавечай душы і спагады. Да другога чалавека. Калі б гэтага не было ў характары і ў натуры самой Марыі — можна пэўна сцвярджаць — не было б і першае яе кнігі. Не было б, напэўна, такога светлага і гэтак тонка прачутага з дакладнейшай псіхалагічнай інтанацыяй апавядання як "Начное дзяжурства" — пра маладзенькую сястру-практыкантку. Яе шчырае, памкліваe на чужы боль і пакуту сэрца кранае бясконца. Чытаеш пра гэту, як чысты вясновы павеў, Кацю Малышкіну, і міжволі сам сабе жадаеш: "Пашлі, Божа, і мне ў сучасным ў гадзіну маіх пакут вось такую ж светлую душу" (як мала іх, на жаль, сёння ў бальнічных сценах, такіх вось міласэрных сястрычак!..) Каб душа гэтая схілілася і над маёй падушкай, як схіляецца з нязгаснай надзеяй Каця Малышкіна над безнадзейным Гурковым. Як ёй хочацца сучасным вясткаю ўзрадаваць яго спакутаваную жонку і смешнага таўсматага хлопчыка-сына...

"Чужая бяда" глядзіць на нас вачыма старой змучанай жанчыны і яе хворай пяцігадовай унучкі Галі, па-старэчы ўкручанай у цёплую хустку і ахінутую яшчэ байкаваю коўдрай... Чужая бяда б'ецца ў здзеравянелых на марозе дрыжачых руках, якія ніяк не саўладаюць з дзверцамі грубкі, што, хоць крычы, не распальваецца ў Галінага бацькі Кастуся... Дзяўчынка Галя жыве ў гэтай хаце без матчынага дагляду, без матчынай пяшчоты і цеплыні... Маці пакінула іх з бацькам? Ды не... Ні ў адным позірку, ні ў адным душэўным руху ні на волас не знойдзеце вы тут літаратурнай робленасці і прыблізнасці, ніводнага недакладнага жэсту, ніводнага выпадковага слова.

...Першая кніга Марыі Філіповіч мела назву не надта каб звычную сярод нашых найчасцей "утравянелых", "абагуленых" назваў. "Мадонна з Выселак" — яна як бы ўжо сама абяцала надзею на стрэчу з цікавым пісьменніцкім імем у беларускай прозе.

...Былі ў Марыі Філіповіч і яшчэ неардынарныя творы: аповесць, апавяданні, нарысы. Была заўсёды вельмі дасведчаная, неабыякавая, цікавая публіцыстыка.

Былі чытачы, якія нязменна, з цікавасцю чакалі сустрэць у друку яе імя.

...Ужо не адзін год мінуўся, як імя гэта знікла з палос і старонак свецкай літаратуры.

Марыя Філіповіч даволі працяглы час была галоўным рэдактарам газеты "Чистый мир". Апошнія гады яна ўзначальвала як галоўны рэдактар духоўна-асветніцкую газету, прызначаную настаўнікам, бацькам і дзецям — "Воскресение".

З ёй мы былі знаёмыя здаўна яшчэ, з часоў публікацыі самага першага яе апавядання ў "ЛіМе". Я знайшла тады яе адрас у аддаленым сельскім фельчарска-медыцынскім пункце на Мядзельшчыне.

...На маім стале ляжыць Кніга, якую Марыя падарыла мне на нядаўні дзень майго нараджэння. Антоній — Мітрапаліт Суражскі. "Чалавек перад Богам". Я не бачыла раней гэтай Кнігі. І не чытала яе... У мае гады — грэх не чытаць такія Кнігі.

Адгортваю і схіляюся над нячытанымі старонкамі.

Я спытала ў Марыі:

— Марыя, чым выклікана? Што змусіла пайсці Вас па гэтай *сцезе?* Па гэтай дарозе?

— Душа так загадала.

Такі быў адказ. І моўлена гэта было з той сціплай прасветленай усмешлівасцю, якую ніяк не параўнаеш з нярэдка "моднай" сёння самаўпэўненай самазадаволенасцю, якой няма ніякай справы ні да самой душы, ні да яе невыказнай памкнёнасці.

...Марыя Філіповіч памерла 16 лютага 2003 года. Адпяванне адбылося ў Царкве Іаана Кранштацкага. Кранальныя словы на яе адыход прамовіў Яго Высокапрэасвяшчэнства ўладыка Філарэт, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

Пахавалі Марыю Філіповіч на могілках у Калодзішчах.

Няхай пунае над апошнім яе зямным прытулкам і суцяшае яе Душу радок Паэта:

"Сьпі, Марыя, сьпі..."

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**

# ЮБІЛЕЙ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

19 лютага споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння Станіслава ШУШКЕВІЧА, вядомага беларускага паэта (1908—1991). Нарадзіўся ён у в. Бакінава Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Вучыўся ў Беларускім педтэхнікуме ў Мінску, працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, загадваў бібліятэкай навукова-даследчага Інстытута сельскай і лясной гаспадаркі ў Мінску. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет. Быў рэпрэсіраваны. У лагерах і ссылцы працаваў шахцёрам, цесляром, бухгалтарам. У 1946—1949 гг. настаўнічаў у Данілавіцкай школе Дзяржынскага раёна. А ў 1949 годзе быў паўторна арыштаваны і высланы ў Краснадарскі край. Там працаваў лесарубам, удзельнічаў у геалагічных партыях і экспедыцыях. Быў супрацоўнікам газеты "Мінская праўда", загадчыкам аддзела тыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Заслужаны работнік культуры Беларусі. Меў урадавыя ўзнагароды.

Друкаваўся з 1924 г. Аўтар паэтычных зборнікаў "Вершы" (1934), "Дарогаю вясны" (1959) і іншых, кніг успамінаў "Вяртанне ў маладосць" (1968). Выступаў як сатырык, гумарыст. Пісаў вершы, апавяданні, казкі для дзяцей, для якіх выдаў кнігі "Вясёлыя дзятлікі" (1970), "Колькі кіпцікаў у кошкі" (1972), "Барадаты камар" (1977)...



•

У музеі Якуба Коласа адбылося святкаванне юбілею пісьменніка Станіслава Пятровіча Шушкевіча. З гэтай нагоды ў гасціннай зале музея сабраліся пісьменнікі, навукоўцы, дзеці і ўнукі паэта, настаўнікі і вучні мінскіх школ.

Вядучым вечарыны быў музеец, паэт Іван Курбека. Ён расказаў, у які час жыў і працаваў Станіслаў Пятровіч, нагадаў пра цікавыя і нават кур'ёзныя выпадкі з жыцця юбіляра.

Затым выступілі Маргарыта Яфімава, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў.

Акрамя пісьменнікаў, бралі ўдзел у вечарыне Анатоль Валахановіч, Міхась Пратасевіч. Цікава было даведацца, што С. Шушкевіч вучыўся ў Белпедтэхнікуме тады, калі там працаваў Якуб Колас, які выкладаў методыку беларускай мовы.

Дзеці юбіляра расказалі нам пра Шушкевіча-бацьку, адзначылі, што Станіслаў Пятровіч ніколі не вучыў іх, што і як трэба рабіць, ён проста заўсёды быў добрым прыкладам для іх. Роза Станіславаўна прачытала свой верш, прысвечаны светлай памяці бацькі.

Цікавай часткай вечарыны было выступленне вучняў СШ № 86 г. Мінска. Яны прачыталі вершы Станіслава Шушкевіча "Галубы", "Вясна прыйшла", "З выраю", "Якубу Коласу", "Камар і мікрафон" і інш.

Напрыканцы свята выступілі ўдзельнікі ансамбля "Мінскі гармонік", кіраўніком якога з'яўляецца Іван Раманчук. У іх выкананні прагучалі прыгожыя песні на словы беларускіх паэтаў.

Шчырымі словамі, успамінамі падзяліліся з намі Надзея Станіславаўна, Роза Станіславаўна і Станіслаў Станіслававіч.

**Марыя САМСОНАВА, вучаніца СШ № 86,**
**Андрэй ГРЫГАРОВІЧ, навучэнец Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа № 1**
**Фота А. ФЕДАРЭНЧЫКА**

